Алесь Бараноўскі

# “За прамень схаплюся – і жыву!”

***Творчая самабытнасць Ніны Шкляравай***

Мінск
«Ковчег»
2011

УДК 613.9 (476)
ББК 51.28 (4Беи)
Б24

Рэцэнзент:
Брадзіхіна А. В., *кандыдат філалагічных навук*

**Бараноўскі, А. А.**
Б24 "За прамень схаплюся – і жыву!" : творчая самабытнасць Ніны Шкляравай / Алесь Бараноўскі. – Мінск: Ковчег, 2011. – 66 с.

ISBN 978-985-7006-20-5

Творчасць Ніны Шкляравай – каштоўны матэрыял для навуковага аналізу, але сістэматызавана яшчэ не вывучалася беларускімі крытыкамі і літаратуразнаўцамі. Кніга А. Бараноўскага з'яўляецца першай спробай такога вывучэння. Аўтар аналізуе мастацкія сродкі лірыкі Н. Шкляравай, прадстаўляючы пры гэтым іх разгорнутую класіфікацыю. У кнізе змешчаны слоўнік з моўнай скарбонкі паэтэсы, а таксама прыклады з неапублікаваных матэрыялаў.

Творчыя здабыткі славутай зямлячкі вымагаюць ашчадных адносін да таленту беларусаў, якія ўзбагачаюць родную мову новымі словамі, а беларускую літаратуру – адметнымі творамі.

**ISBN 978-985-7006-20-5**

# ВЫТОКІ…

Васільком памкнуся ў сіняву,
За прамень схаплюся – і жыву!

*Ніна Шклярава*

Цудоўнае бязмежжа паэзіі, непадуладнае законам розуму, пачуццё акрыленасці з першымі радкамі верша, творчая дасканаласць з эфектам адоранасці – заўсёдныя спадарожнікі сапраўднага таленту. Старажытныя гаварылі: "Спазнай сябе – спазнаеш свет". А калі гэты свет – паэт? Ці магчыма яго спазнаць?..

"Где-то в конце шестидесятых, в Старых Дятловичах, живя на квартире у Сеньки Стрижакова, я услышал по радио звонкий девичий голос, читавший свои стихи. Нет, пожалуй, эпитет "звонкий" не передаёт полностью впечатления от этого голоса. Не звонкий он был, а упругий, "нацяты, *кажучы па-беларуску*", *как тетива лука*", – *узгадваў у* прысвечаным Н. Шкляравай артыкуле паэт Юрый Фатнеў. Ёй былі ўласцівы, працягвае ён, "асцярога" в оценке собственных возможностей, отсутствие тщеславия" [1, с. 315]. Нельга не пагадзіцца са словамі славутага земляка. І праз шмат гадоў Ніна Нічыпараўна не разгубіла ўпадабаных ім некалі якасцей. Прыветлівая і добразычлівая, лагодная і трывалая – свая…

Багаты жыццёвы шлях на прыгоды: ён пасылае адкрыцці, надае прасвятленні, часам зводзіць у зман, бывае – дорыць сустрэчы – знакавыя, дарагія, светлыя… А яны, як вядома, могуць не толькі ўплываць на жыццё, але і змяняць яго. Адной з такіх памятных сустрэч для мяне было знаёмства з Нінай Шкляравай…

Першае ў маім жыцці літаратурнае аб'яднанне – "Пралеска": новыя ўражанні, знаёмствы з "жывымі" пісьменнікамі. Вось яны тыя, чые імёны я неаднаразова сустракаў на старонках "Гомельшчыны літаратурнай".

Сядзяць і п'юць са мною гарбату, чытаюць вершы (не верыцца!). Аднойчы на паседжанне завітала русавалосая жанчына, ярка апранутая (магчыма, у чырвоны колер). Яна была зусім не падобная да іншых: статная, прыгожая... На нейкі момант мне нават здалося, што я заўважыў у яе вачах ганарлівасць, але хутка зразумеў, што гэта было пачуццё годнасці. Такой мне падалася беларуская паэтэса Ніна Шклярава. Тады я яшчэ не ведаў, што яна стане рэдактарам абедзвюх маіх кніг, што сам стану наведваць школу маладога літаратара, якая пачне існаваць пад кіраўніцтвам паэтэсы ў Славянскай спецыялізаванай бібліятэцы горада Гомеля. Наша першае знаёмства перарасце ў сяброўства.

Вяртаючыся да школы "Малады літаратар" (а гэтую тэму немагчыма абмінуць), прыгадаю індывідуальныя заняткі з Нінай Шкляравай над рукапісам: сядзелі над радком, шукалі лепшыя варыянты слова, рыфмы ці цэлага слупка, занатоўвалі знаходкі, разам рабілі праўкі, прыходзілі да высновы. А яна такая: трэба працаваць, удасканальваць свае здольнасці, рухацца наперад. "Рух – гэта і ёсць аснова жыцця, яго падмурак", – пачуў я неяк ад Ніны Нічыпараўны.

Яна радавалася нашым першым публікацыям, дапамагала выдаваць першыя зборнікі, а мы, студыйцы, стараліся не прапусціць выхаду яе новых кніжак. Чыталі, завучвалі напамяць любімыя вершы землякоў. Бо ў школе праводзілі свае майстар-класы вядомыя члены Саюза пісьменнікаў Беларусі У. Гаўрыловіч, М. Болсун, С. Крупенька, В. Ткачоў, Е. Дударга і многія іншыя. Паэт Іван Васільевіч Бісеў, напрыклад, кожны чацвер праводзіць для жадаючых семінары паэзіі. Ён жа заснаваў серыю "АЗ" – першая кніга паэта. З 2011 года выдаецца "Бібліятэчка школы Малады літаратар". Моладзь пацягнулася да нас, і зараз многія студыйцы сталі пераможцамі прэстыжных міжнародных конкурсаў, а некаторыя, у іх ліку і я, маюць свае першыя зборнікі (Марыя Маліноўская, Ганна Новік, Яўген Малевіч, Іна Спасібіна, Дар'я Дарошка і Уладзімір Чаравухін, Сяргей Прывалаў, Таццяна Нілава,

Вольга Астапенка, Анастасія Кацюргіна). Думаю, што гэта стала магчымым таму, што Ніна Шклярава скіравала сваю ўвагу на запатрабаванасць нашай творчасці.

Ніколі не забуду выхаду першай сваёй кнігі "Чуйнае акно". А да яе мяне падштурхнула, вядома ж, Ніна Нічыпараўна. А там і да другой. І зараз я сам ужо член Саюза пісьменнікаў. А ці ж я адзін такі? Напрыклад, шаснаццацігадовая Маша Маліноўская стала лаўрэатам конкурсу імя Дзмітрыя Ліхачова ў Расіі, а Ніне Нічыпараўне ўручылі дыплом як лепшаму настаўніку. Немагчыма не ўзгадаць Іну Спасібіну, якая перамагае амаль ва ўсіх літаратурных слэмах і з вершамі, і з прозай...

Шмат таленавітых людзей на Гомельшчыне, і многія з іх сабраліся пад дахам Славянскай спецыялізаванай бібліятэкі г. Гомеля на базе школы "Малады літаратар" УА "Гомельскі *Палац творчасці дзяцей і моладзі*".

Усё ў жыцці невыпадкова. І калі ў ім адбываюцца ашаламляльныя супадзенні, упэўніваешся ў непарушнасці гэтай ісціны.

Даведаўся, што Н. Шклярава з вёскі Пракопаўка, якая красуецца на беразе рэчкі Церуха. Быў прыемна ўражаны: І. Шамякін, А. Грачанікаў, М. Башлакоў, Т. Мельчанка і вось яшчэ адна "пракопаўская ластаўка" – Ніна Нічыпараўна. Цікава (вяртаючыся да супадзенняў), што і я сам з тых мясцін, якія з'яўляюцца творчай калыскай узгаданых аўтараў.

Захацелася даведацца, а што за вёска такая – Пракопаўка?

Згодна з летапісам згаданага населенага пункта, змешчаным у Гомельскім краязнаўчым музеі, назва вёскі паходзіць ад мясцовых каляін-канаў (пракопаў), па якіх вада трапляла да трох вадзяных млыноў. Угоддзі гэтыя належылі пану Лісоўскаму. Ён надзяліў мясцовых жыхароў непрыдатнымі для распрацоўкі землямі. Назву мясцовасці, дарэчы, далі не самі пракопаўцы, а жыхары суседніх селішчаў.

У 1772 годзе ў выніку першага падзелу Рэчы Паспалітай пракопаўскія землі ўвайшлі ў склад Расіі. Распаўсюджвалася прыгоннае права. Яно ахапіла вёскі Будзішча, Займішча, Макаўе, Чарацянку. Жыхары гэтых населеных пунктаў сталі прыгоннымі. Пракопаўцаў падобная доля абмінула. Яны выявілі сябе выдатнымі гаспадарамі: каб пашырыць ворныя землі, вяскоўцы распрацавалі цаліну за хвойнікам – Галіцкае і Доўгае. Лес празвалі Гальцамі. Ды і навогул гэтая вёска стаіць у акружэнні лясоў і ўрочышчаў, з прыгожымі назвамі: Воленка, Ведзеркі, Крутая Гара, Сіні Мох, Перакопец, Копанка, Ляскі, Крывая Канава, Чарацянец.

Пасля адмены прыгоннага права, у 1861–62 гадах, землі сялян былі адрэзаны на карысць князя Паскевіча. З часам пракопаўцы атрымалі магчымасць выкупіць свае надзелы ў князя.

Можа, у гэтых сціплых гістарычных фактах і ёсць аснова творчага характару паэтэсы Н. Шкляравай?.. Можа, гэта родавая знітаванасць з каранямі і ёсць залог поспеху?.. Адно ведаю дакладна: будзе жыць рака, якую не стамляючыся жывяць крыніцы. Будуць жыць радкі, якія і самі становяцца жыватворнымі.

Вядома ж, гэта шчасны лёс –
Тут святкаваць свае радзіны,
З-пад кола выхапіць усё ж
Зямелькі роднай пупавіну.

*[з неапублікаванага]*

## Літаратура

1. Фатнеў, Ю. Свивая обе полы времени [Текст] / Ю. Фатнеў // Гоман. – 2006. – Выпуск 2. – С. 315.
2. Летапіс вёскі Пракопаўка.

# ГНАСЕАЛАГІЧНЫЯ МАТЫВЫ Ў ЛІРЫЦЫ Н. ШКЛЯРАВАЙ

Сярод неацэнных духоўных скарбаў, на якія багатая Беларусь, адмысловае месца належыць жаночай лірычнай паэзіі. Кажучы аб лірычных гінатэкстах, варта разглядаць іх ва ўсёй шматстайнасці, гэта значыць філасофскія, грамадзянскія, пейзажныя, інтымныя вершы, не замыкаючыся, як гэта часта бывае, толькі на апошніх. І менавіта ў філасофскай паэзіі паэт выяўляе сілу і цэласнасць адчування жыцця.

Творчасць Н. Шкляравай не належыць да так званай інтэлектуальнай плыні з яе ўскладненасцю думкі, ланцуговай асацыятыўнасцю і верлібравымі формамі. Хутчэй гэта традыцыйная медытатыўная лірыка з яе невынішчальнай прагай ідэалу, спробамі разабрацца і ў космасе быцця, і ў мікракосмасе свайго “я”. Пад пяром Ніны Шкляравай упадабаныя раней, спецыфічныя для жаночай лірыкі, тэмы змяняюцца ўсёчалавечымі праблемамі. У сваёй творчасці паэтэса часта аддае перавагу эмацыйнай стыхіі, але назваць яе лірычную гераіню спантанай і імпульсіўнай таксама будзе не зусім правільна. Паэтычная прамова аўтаркі нярэдкаператвараецца ў адзіны гарачы парыў. Уся яе творчасць – “ода” жыццю, напоўненая болем і жахам, часам – апакаліптычным адчуваннем згубы:

Прамільгнуў і згас
Залаты мой час.
Здзіўлена наўкол
Мой глядзіць анёл:
Самотна маўчыць
На маім плячы [1, с. 27].

Ні бяды, ні нуды,
Аніякага ліха!
Раптам знікла ўсё –
Так вадзіца бяжыць
І ў зямельцы знікае…
Толькі сполахі ціха
Танцавалі ў траве,
Там, дзе крыж мой
Ляжыць [1, с. 28].

Падобнага кшталту мінорнасць – гэта шмат у чым вынік засваення біблейска-хрысціянскіх традыцый, якія, хоць і апасродкавана, уплываюць на творчае развіццё паэтэсы Н. Шкляравай. Сяброўка творцы, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, журналіст Ганна Атрошчанка заўважала: "Асаблівы ўплыў на дзяўчынку мела цётачка Лёкса, якая была вялікай верніцай. У яе хаце заўсёды гучалі праваслаўныя малітвы перад абразамі, прыгожыя псалмы. Таму ўражлівая Ніначка таксама расла верніцай, баялася зрабіць дрэннае нават маленькаму мурашу..." [2, с. 11]. Найбольш выразна біблейска-спавядальныя матывы выявіліся пасля перакладу на родную мову паэтычных тэкстаў іераманаха Рамана. "Ён, – заўважае Ю. Фатнеў, – блізкі ёй перш за ўсё сваёй рэлігійнасцю" [3, с. 12]. Біблейская, урачыстая прыўзнятасць шкляраўскіх вершаў гэтага перыяду тлумачыцца сапраўднай вышынёй прыхаванага ў старажытным творы пачуцця. Невыпадкова аўтарку пачынае прыцягваць біблейская вобразнасць і асацыяцыі з евангельскімі матывамі ("Як з плячэй маіх крыж мой...", "Некалі царква стаяла тут...", "Святары" і інш.). Дзіўнае спалучэнне жаноцкасці і вытанчанасці з мужнасцю і воляй, апантанасцю і імпэтам, з чаканнай філіграннасцю верша, непадробная шчырасць пачуццяў і глыбокія філасофскія роздумы аб вечных праблемах быцця – вось што вылучае сённяшнюю паэзію Ніны Шкляравай.

Аднак нельга разумець падобнага кшталту лірыку як вузканакіраваную, спачувальна-слязлівую з'яву. Жаночай паэзіі, таксама як і мужчынскай, нярэдка характэрна моцнае пачуццё сяброўства ці, як прынята гаварыць, "адчуванне пляча". І ў гэтым, насуперак агульным стэрэатыпам пра немагчымасць жаночага сяброўства, Н. Шклярава пераконвае ў сваім вершы, прысвечаным Я. Янішчыц:

А пакуль жыццё маё – іржышча.  
Босая іду, як пад цягнік.  
Табе добра, Жэня,  
Ты – Янішчыц,

Я ж – табой забыты
Чарнавік [1, с. 24].

Аднак пачуццё своеасаблівай “другаснасці” не перашкодзіла Н. Шкляравай заняць пачэсную нішу ў беларускай літаратуры. Можна ўпэўнена гаварыць, што гэта паэтэса самабытная. Адметнасць яе вершаванага радка адбіваецца своеасабліва – у пявучасці і меладычнасці. Н. Шклярава не столькі пісала вершы ў звычайным сэнсе, колькі іх запісвала – на слых і па слыху. Крыніца музычнасці яе лірычных твораў не суадносіцца з сімвалічным гукапісам, аўтарка чакае, калі паэтычнае слова само з'явіцца з гукавой прасторы. Гук, музыка ў яе свядомасці – улонне верша і першавыток паэтычных вобразаў. Падпарадкоўваючыся музычнай інтанацыі, Н. Шклярава, падобна да музыканта, імкнецца арганізаваць какафонію, гукавое бязладдзе свету, у строга вывераную, вытанчаную мелодыю.

Тэма спасціжэння сябе і свету надае лірыцы творцы арыгінальны характар, з гранічнай шчырасцю агаляючы чалавечую душу ў яе пакутах і болю. Непрыхаванасць унутранага пачуцця асабліва яскрава можна ўбачыць у вершы з неадназначнай назвай “Мяне чакаюць”:

Я засынаю...
Пяюць мне калыханку зоры...
Мяне чакаюць за небасхілам:
Конь мой – вецер,
Мой клічнік здзіваваны –
Промень сонца,
Пытальнік надакучлівы – дарога,
Рукзак, напакаваны днямі доўгімі,
Кароткімі гадамі...
Мяне чакаюць –
Бяссонніца
і
Вечны сон [4, с. 193].

Цяжкі, крызісны стан, у выніку якога з'явіўся верш "Мяне чакаюць", быў тым больш пакутлівым, што пошукі новага сэнсу жыцця, усведамленне хуткацечнасці і нявечнасці чалавечага існавання, складаныя перыпетыі асабістага лёсу ў спалучэнні з трывожным адчуваннем будучых змен – усё гэта патрабавала ад паэткі служэння вышэйшым інтэрасам мастацтва. Складанасць дасягнення жаданага ідэалу заключалася ў тым, што агульныя каардынаты, паводле якіх развіваўся і рухаўся час, былі ёй да канца незразумелыя. Не адчуваючы арыенціраў, Н. Шклярава, мяркуючы па ўсім, арыентавалася галоўным чынам на сілу мастацкай інтуіцыі.

Паступова матывы камернай лірыкі гублялі і для Н. Шкляравай сваё зачараванне і ў выніку перасталі дамінаваць ў яе творчасці, бо супярэчылі пафасу драматычнага перажывання жыцця і ўсведамленню высокага прызначэння паэта, якое ўсё больш авалодвала аўтаркай.

Паміж ранняй лірыкай і сталай творчасцю Н. Шкляравай – велізарная паласа: тут былі смерць, разруха, страты, здрады, перавернуты побыт, адчуванне катастрофы, было ўсё, што толькі можа выпасці на долю чалавека. Быў перыяд, калі за шмат гадоў на паперы не з'явілася ніводнага верша, але, як усё жывое, яе лірыка працягвала жыць у думках. Стары свет быў разбураны, новы толькі пачынаў будавацца. Для Н. Шкляравай зруйнаванае мінулае сімвалізавалася з пакутлівым адрывам ад каранёў: пераезд у Расію і цяжкае вяртанне на Радзіму... Ды ўнутраная сіла жыцця прымушала пасярод абломкаў старога і незнаёмага новага працягваць ствараць паэзію:

На Советской, на старой площади
Я тоскую по СССР –
Моей матери, моей Родине,
Репресированной...

*[з неапублікаванага]*

Заўважым, што для філасофскай лірыкі характэрна дамінаванне рацыянальнага плана над пачуццёвым. Першым чынам яна вызначаецца абрысамі малюнка, у аснову якога пакладзеная думка, зарыентаваная на асновы чалавечага быцця, нярэдка разбаўленага сацыяльнымі або этычнымі планамі. У сувязі з гэтым у медытатыўнай лірыцы Н. Шкляравай варта адрозніваць філасофскі верш і філасофскі кантэкст. Прыкметай размежавання гэтых паняццяў можа быць счапленне розных па сваім характары думак, калі само гэтае счапленне ў выніку дае новую "мадэль" – адкрыццё.

Дамінантным аб'ектам лірычнай рэфлексіі становіцца не столькі жыццё як такое, колькі яго рух, зменлівасць з акцэнтам, у сваю чаргу, не столькі на пачуццях, колькі на адмысловай каштоўнасці эмацыйнага плану на рознай часавай стадыі, і асабліва – у сталым узросце. Бо з вопытам да Н. Шкляравай прыходзіла ўсведамленне сапраўднай вартасці зямнога існавання і смутак па незваротнаму:

И не надо мне меди звенящей,
Не прельщает и золота блеск...
Мне навстречу лишь день уходящий,
Мне вдогонку лишь прошлого всплеск.

*[з неапублікаванага]*

Лірычная гераіня пакутуе ад бясілля, бо не ў яе ўладзе павярнуць час назад:

Не успела присесть и подумать,
Не смогла время остановить,
А в душе моей ворон угрюмый
Смог гнездо своё чёрное свить.

*[з неапублікаванага]*

Адным словам, перад намі ідэі "вечныя", якія не выключаюць, аднак, і "пячаткі часу", бо па-за ёй нельга

паглыбіцца ў падтэкст верша, зразумець прыхаваныя ўзроўні, семантыку слоў, своеасаблівасць сімволікі. Па-за гістарычным кантэкстам філасофская паэзія набывае абстрактныя характарыстыкі. Іншая справа, як сцвярджае Л. Гінзбург, што "гістарызм можа быць неяскравым, неўсвядомленым ці замоўчаным у сілу вызначанай установкі" [5, с. 17]. У сувязі з гэтым узнікае актуальнае і даволі спрэчнае пытанне аб магчымасці адкрыццяў у галіне агульначалавечых "вечных" каштоўнасцяў, па-за якімі філасофская паэзія абмежаваная. На нашу думку, не патрапіць у пастку адцягненага тэарэтызавання паэту-філосафу можа дазволіць форма споведзі перад чытачом.

Калі гаварыць пра вобразы шкляраўскіх твораў, яны прадстаўлены як свайго роду катэгорыі: прастора і воля ("Мая вёска"), роўнасць і братэрства ("Будзьма!"), жыццё і смерць, дабро і зло, прыгажосць і бязладдзе, асоба і ўлада ("Калі не станеш прэзідэнтам", "Перабудова", "Не для адводу" і г. д.). Акрамя таго, лірыка Н. Шкляравай можа быць успрынята як адзіны глабальны тэкст, у якім "філасофія" ёсць арганічная паэтычная думка: "Думкі зграбаю, / Як гарачыя вуглі..." [6, с. 13]. Аўтарка стварае вершы не як рацыяналістычныя інтэлектуальныя канструкцыі, а як эмацыйныя імправізацыі – рухомыя, жывыя ўтварэнні: "Гэта нагадвае фрэску, складзеную з каляровых аскепкаў. Можна адшукаць сувязь паміж імі. Але справа ў тым, што кожны верш – усё-ткі не асобны фрагмент, а закончаная карціна" [3, с. 12] – слушна зазначыў у прысвечаным Н. Шкляравай артыкуле Ю. Фатнеў.

Відавочна, што пытанне аб адкрыццях у філасофскай лірыцы закладзены ў самой прыродзе гэтага віду паэзіі. Гістарычна складвалася так, што новае ў ёй сцвярджалася праз усё большую адмену абмежаванняў, і, адпаведна, пашырэнне прасторы творчай дзейнасці. А паколькі лірыка з'яўляецца адмысловай формай спазнання рэальнасці і асоба ў ёй выступае як адлюстраванне свядомасці свайго часу, то і "вечныя" ідэі, пераламляючыся праз

светаадчуванне паэтычнай асобы, набываюць новыя адценні і значэнні, своеасабліва інтэрпрэтуюцца.

Асабліва выразна ў паэзіі Н. Шкляравай форма споведзі праявілася ў інтымна-філасофскіх рэфлексіях. Каханне заўсёды нясе з сабой патэнцыйную магчымасць самаразвіцця, але ў лірыцы аўтаркі і само гэта паняцце трансфармуецца ў іншае, больш шырокае пачуццё – любоў да роднай зямлі, народа. Філасафічнасць падобнага кшталту вершаў заключаецца ў спасціжэнні адвечных пытанняў светабудовы: законаў, што кіруюць жыццём, яго арыенціраў, і, нарэшце, сэнсу існавання.

Цесна звязаны з матывам спавядальнасці ўспаміны аб мінулым ("Успамін", "Мамачка, з якім давер'ем...", "Беларусь, маё шчасце..."). Але паэтэса не засяроджваецца толькі на пражытым, яна, надзеленая пачуццём вострай інтуіцыі, глядзіць наперад. "Я – палонная вечнасці, – прамаўляе лірычная гераіня верша "Балада паэткі". І працягвае: "Я палонная вечна" [6, с. 13]. Відавочна, Н. Шклярава верыць, што яе творасці наканавана доўгае жыццё (адсюль і вобраз вечнасці), бо, як вядома, паэт доўжыцца не толькі ў народнай памяці, а і, найперш – у вершах. Аднак падобнае прызнанне нельга расцэньваць як акт самаўпэўненасці. Аўтарка ўсведамляе: "Я – вечнасці кароткай толькі міг..." [7, с. 3], "Мой транзітны білет / У жыцця ў палоне" [6, с. 13]. З непрыхаваным смуткам, але без горычы і адчаю Н. Шклярава разважае пра той час, калі спыніцца "мой цягнік" ("Імчыць і мой цягнік, / І будзе мой прыпынак") [8, с. 11], наадварот, яна, шчаслівая, выйдзе з яго насустрач да сваіх сяброў:

І я свае абдымкі
Раскрыла, быццам крылы.
Іх ахінаю:
– Родныя!
Вось я і дома [8, с. 11].

Адзінота жаночая і творчая, адзінота чалавека ў Сусвеце, адзінота перад Богам... Гэта тэма часта сустракаецца ў паэзіі Н. Шкляравай. І тады жыццё замыкаецца ў нейкія квадраты, з якіх, здаецца, няма выйсця:

Усюды квадраты. Квадратамі
І вокны, і сцены, і хаты.
Я думкі хаваю за кратамі,
На сценку палезеш хіба ты? [8, с. 29].

У рэальным жыцці нават тады, калі, здавалася б, відавочнага выйсця не відаць, Н. Шклярава спрабавала яго знайсці. І гэты "новы стары" шлях часта атаясамліваўся з літаратурай. Творчасць, звязаная са спавядальнасцю, прадвызначае ўздым лірычнай гераіні на вышэйшую метафізічную прыступку. Шлях маральнага самавызначэння гераіні звязаны з яе рухам ў часе і прасторы. З дапамогай матыву шляху і прасторавых метафар у твор уводзіцца тэма волі, якая становіцца асноватворчай у псіхалагічным сталенні лірычнай гераіні ("Ветразь скача, нібы лось...", "Ой, ляцелі птушкі...").

Шмат увагі Н. Шклярава надае ўвасабленню рэчыўнага свету (люстэрка, крыж, хусцінка), нярэдкія таксама і фларальныя вобразы (яблыкі, дзічка). Такая накіраванасць паэтычнага мыслення тлумачыцца, хутчэй за ўсё, тым, што ў міфалагічных уяўленнях рэч звязаная з душой, таму часта набывае вялікую каштоўнасць. Прыхільнасць да асабістай, а таму "моцнай", рэчы становіцца прыкметай глыбокага ўнутранага свету лірычнай гераіні. Таму ў творчасці Н. Шкляравай ставяцца пытанні побытавага плана, вырашыць якія дапамагаюць міфалагічныя матывы – крыніца ўніверсальных ведаў. Так, у творах ("Кірмаш. Я стаю...", "Я присела дома у окна", "Колькі ў маім горадзе рабін..." і г. д.) суіснуюць рэальна-гістарычная і міфалагічная прастора і час, якія дазваляюць рэалізаваць касмалагічныя ідэі аўтаркі. У апошнім вершы, дарэчы, відавочны смутак па страчаным маленстве, вёсцы, у якой

нарадзілася, па тым, што ўжо ніколі не вернеш. Стаўшы гараджанкай, лірычная гераіня вымушана асвойваць новую прастору, але і ў ёй яна адшуквае прыметы малой радзімы:

Колькі ў маім Гомелі рабін!
Тэлевышка арабінай ззяе.
Нават лёс у нас цяпер адзін
З горадам, як у рабіны з гаем [6, с. 13].

Падобнае імкненне да апяванне роднага краю зразумелае: у ім Н. Шклярава чэрпае творчае натхненне, "а спачатку яна захаплялася горадам. І... шукала ў ім сельскія прыкметы, каб хутчэй з ім зжыцца" [3, с. 12], – заўважаў паэт і сябра Н. Шкляравай Ю. Фатнеў.

Увогуле ў творчасці Н. Шкляравай вылучаюцца тры стылявыя лініі. Створанае ў юнацкія гады адрозніваецца рамантычнай узнёсласцю, ідэалізацыяй мастацкага вобраза. Сталыя гады прыўнеслі ў вершы больш раскаванасці, пазбавілі стэрэатыпнай абмежаванасці. У апошні час паэтэса сур'ёзна занялася перакладамі. "Пераклала са старажытнарускай на беларускую "Слово о полку Игореве". Ды так, што нельга не зачаравацца музыкай роднае мовы" [9, с. 2]:

Яго яшчэ помняць
Лясы і палеткі,
Шчыміць яшчэ вечнасці рана...
Хай слова маё
Будзе мужнасці сведка,
Што вартыя гусляў Баяна... [10, с. 316].

"Як прыйшла да гэтага? Зусім нечакана для самой сябе. Рухалася па слядах палескага Залатавуста Кірылы Тураўскага. Спрабавала суаднесці жыццё і творчасць Вялікага Тураўляніна з падзеямі, якія ўзноўлены ў помніку старажытнаславянскай літаратуры. Вычытала яго прытчы і малітвы. Затым узялася за «Слова пра паход...». Зачапіла.

Рашыла перакласці ўрывак. І не заўважыла, як ахапіла твор цалкам. Містыка нейкая" [11, с. 315], – згадвала ў прадмове да перакладу паэтэса. Творы Шкляравай-перакладчыцы маюць цікавую асаблівасць: вельмі часта пераўзыходзяць арыгіналы. А бывае, што элітарную, разлічаную на падрыхтаванага чытача, паэзію, напрыклад, Фелікса Мысліцкага, Н. Шклярава набліжае да шырокага кола чытачоў, робіць больш даступнай, не губляючы тым часам усіх адметных рысаў арыгінала. І трэба аддаць належнае: паэтэса дасканала авалодала гэтым майстэрствам:

*Ф. Мысліцкі*

...Ёсць у Восені Дух, у ім вестка нябёсаў і сум,
ёсць у Восені Дух...
Ім прасякнуты верш, што празрысты ад сонечных дум,
ім прасякнуты верш.
Дух у непагадзь грае сабе на дудзе,
дух у непагадзь грае.
Прабягае імжа нетаропка па цёплай вадзе,
прабягае імжа.
І мяне працінае няясная сэрцу жуда,
і мяне працінае...
І апошні апалы лісток мне чамусьці шкада,
і апошні лісток.

*Пераклад з рускай мовы Н. Шкляравай*
*"Осенние импровизации"*

*[з неапублікаванага]*

*С. Сыс*

...Тёмной ночью взял и улетел,
Жаром полыхал огромный рот...
Отыскать невесту захотел,
Чтобы не исчез драконов род.

Говорят, немного погодя
Он вернется, заживет как встарь,
Что родится здесь еще дитя –
Золотистый белорусский Царь.

*Пераклад з беларускай мовы Н. Шкляравай "Золотистый змей"*

*[з неапублікаванага]*

Такім чынам, сённяшнюю творчасць Н. Шкляравай можна разглядаць у рэчышчы філасофскай паэзіі. Яе медытатыўная лірыка набыла арыгінальна-аўтарскія рысы напеўнасці і спавядальнасці, дзякуючы чаму ўдала ўпісваецца ў кантэкст лепшых узораў жаночай паэзіі. "Шчыры давер к людзям, напеўнасць радка, свабода інтанацыі, вобразнасць, глыбіня думкі, – па словах Ю. Фатнева, – характэрныя асаблівасці лірыкі Н. Шкляравай [12, с. 2]. Гнасеалагічныя матывы, шырока прадстаўленыя ў творчасці паэтэсы, часта рэалізуюцца пры дапамозе прыёму споведзі, а лірычная гераіня ў гэтым выпадку пераходзіць на якасна новы ўзровень свайго існавання, набліжаны да безграхоўнага. Матыў своеасаблівага ачышчэння, які таксама шырока прадстаўлены ў тэкстах Н. Шкляравай, звязаны, хутчэй за ўсё, з засваеннем аўтаркай біблейска-хрысціянскіх традыцый, а імкненне да апявання рэчыўнага свету дае магчымасць вылучаць у яе творчасці язычніцкі пачатак.

## Літаратура


1. Шклярава, Н. Аканіцы [Тэкст] : вершы і пераклады / Н. Шклярава. – Мн. : Беларуская навука, 2007. – 192 с.
2. Атрошчанка, Г. Я вам насцеж расчыню душу сваю і сваё сэрца… [Тэкст] / Г. Атрошчанка // Советский район. – 2008. – 20 лютага (№8) – С. 11.
3. Фатнеў, Ю. І ўсё пры ёй (баба) [Тэкст] / Ю. Фатнеў // ЛіМ. – 2008. – 26 снежня (№ 52). – С. 12.
4. Шклярава, Н. Натхненне [Тэкст] / Н. Шклярава; [пад рэд. У. Гаўрыловіча]. – Мазыр : КПУП "Калор", 2007. – 193 с.
5. Гінзбург, Л. Я. О лирике [Текст] / Л. Гінзбург. – Л. : 1974. – 2-е выд.
6. Шклярава, Н. Балада паэткі [Тэкст] / Н. Шклярава // Літаратурная Гомельшчына. – 2008. – № 3. – С. 13.
7. Шклярава, Н. Міг і вечнасць [Тэкст] : вершы / Н. Шклярава. – Мн. : Мастацкая літаратура, 1979. – 70 с.
8. Шклярава, Н. Дзічка [Тэкст] : лірыка / Н. Шклярава. – Гомель : Палесдрук, 2001. – 96 с.
9. Кручэнка, Т. Край палескі наўкола, луста роднай зямліцы [Тэкст] / Т. Кручэнка // Гомельская Праўда. – 2007. – № 192. – 2 с.
10. Шклярава, Н. Слова пра паход Ігаравы [Тэкст] / Н. Шклярава // Гоман. – 2006. – Выпуск 2. – С. 316 – 318.
11. Шклярава, Н. У адным прамежку часу [Тэкст] : прадмова да перакладу "Слова пра паход Ігаравы" / Н. Шклярава // Гоман. – 2006. – Выпуск 2. – С. 315.
12. Фатнеў, Ю. А дзічка ўсё-такі цвіце [Тэкст] / Ю. Фатнеў // Гомельская Праўда. – 2001. – 11 жніўня – С. 2.

## ЭРАС ЯК АСНОВА ВІТАЛЬНАГА ПАЧАТКУ Ў ТВОРЧАСЦІ Н. ШКЛЯРАВАЙ

Эратычныя матывы ў творчасці Н. Шклaverравай можна разглядаць як аснову вітальнага пачатку. Чалавек, паводле хрысціянскага вучэння, створаны як носьбіт "выявы і падабенства" *(образа и подобия)* Бога. Аднак грэхападзенне, здзейсненае першымі людзьмі, разбурыла богападабенства чалавека, наклаўшы на яго пляму першароднага граху. Эротыка ў мастацтве, а тым больш культываванне аголенага чалавечага цела, мае ў сваёй аснове язычніцкае паходжанне і ўзыходзіць да старажытных часоў. З іншага боку, людзі нараджаюцца на свет таксама голымі, што традыцыйна трактуецца як сімвал чысціні, несапсаванасці, безграхоўнасці. Са сказанага вышэй вынікае, што тэндэнцыя да паказу аголенага цела мае за падмурак і хрысціянскі пачатак. Незвычайны сінтэз абедзвюх першакрыніц паэтычнага натхнення складае аснову інтымнай лірыкі Н. Шклярвай:

Ахіну цябе, любы, каханнем,
Як святы абразок – ручніком [1, с. 71].

Зварот да эратычных матываў у творчасці паэткі звязаны ў першую чаргу з тэмай кахання, якое, па прызнанні самой аўтаркі, не "штучнае", не "выхалашчанае", а каханне ўласна пражытае, зямное, якому ўласціва ў тым ліку і тонкая эротыка. Часам яна ўдала прыхаваная паэтэсай:

Хачу быць гаспадыняю тваёй.
А хочаш ты, дык стану я рабыняй!...
...Але калі б я і была святой –
Я б грэшнікам цябе зрабіла.
Каб тайна між табой і мной, нямой,
Была, нібы зарослая магіла [1, с. 76].

Чытачы могуць толькі здагадвацца, якая ж тайна паміж лірычнымі героямі дадзенага верша. А эратычную афарбаванасць тут стварае не змест, а хутчэй атмасфера любоўнага перажывання. Калі характарызаваць інтымныя вершы Н. Шкляравай, то можна сказаць, што яны знаходзяцца на мяжы эратычна-ўзвышанага і непрыстойна-зямнога, але, дзякуючы вобразным сродкам фалькорнага паходжання, ("І як нячысцік сярод голых / Русалак... / Ледзьве не памёр" [1, с. 77]) і ўплыву класічнай літаратуры, у такіх вершах пераважае, так бы мовіць, "прыстойная" эротыка:

Кахай мяне,
Пакуль, бы ў хвоі,
Тырчаць і колюцца саскі.
Мы так нацешымся з табою,
Падмяўшы ў жыце каласкі [1, с. 76].

Заўважна, што мастацка-вобразная сістэма інтымных вершаў аўтаркі адыгрывае далёка не апошнюю ролю ў раскрыцці іх ідэі. Менавіта пры дапамозе метафарычнага іншасказання паэтка здолела перадаць унутраны стан і нават характар лірычнага персанажа:

...Ці не скажуць твае лодкі-
вочы,
Дзе іх калыхалі хвалі ночы
Ці не скажуць твае рукі-
вёслы,
Дзе іх калыхалі хвалі лёсу...
[1, с. 73].

Старая яблыня лісток,
Нібы далонь, хутчэй
Чмялю падставіла пад бок,
Каб спалася ямчэй.
Ён задаволены гудзеў
Ёй песню пра любоў... [1,
с. 63].

Пры гэтым амаль заўсёды, калі размова ідзе пра каханне, лірычная гераіня максімальна набліжана да асобы аўтаркі. Гэта не выпадкова, бо любоўныя пачуцці і перажыванні, якія паэтэса трансліруе праз свае вершы,

заснаваны на асабістым вопыце. Лірычная гераіня адчувае сябе жанчынай ва ўсёй сваёй жаночай сутнасці і не саромеецца гэтага. Сорам – салодкі! Не хавае творца і сваіх эратычных фантазій, смела, хаця і не без іроніі, выказваючы іх у вершах:

Колькі мужыкоў,
Вось быў бы гай!
Каб раздзець усіх…
Яшчэ мінутку?...” [1, с. 67].

Адказала я:
– Хачу быць жонкаю.
Рассмяялася рэха звонкае.
Паляцела яно за сваццейкай,
Ці ўтапілася мо ад
шчасцейка? [1, с. 78].

Лірычная гераіня ў першую чаргу чалавек, жанчына, і ёй не прыкры зямныя асалоды, цялесны складнік кахання. Апошняе ў вершах паэткі мае не толькі фізіялагічнае, але і духоўнае, а, калі скарыстацца эпітэтам П. Фларэнскага, яшчэ і містычнае значэнне: “Што глядзіш, нібы папаў ў рай?” [1, с. 67].

Вернасць каханню апраўдвае ўсё грахоўнае, што з гэтым пачуццём можа быць звязана. Такое разуменне існасці феномена кахання Н. Шкляравай абумоўлівае з’яўленне ў яе творчасці біблейска-рэлігійных матываў:

Што глядзіш,
Нібыта сам Хрыстос?
Каяцца не буду,
Хоць і грэшна [1, с. 71].

Каштоўнасны свет паэткі ў значнай ступені арганізаваны вакол востра прачулай біблейскай сімволікі з яе антытэзамі асалоды і праклёну, нявіннасці і грэхападзення. Размежаванне хрысціянскага і язычніцкага пачаткаў у пэўным сэнсе звязана з полавай дыферэнцыяцыяй: лірычная гераіня – амаль заўсёды носьбіт зямных, “матэрыяльных” якасцей (“Я – не Ева і не прастытутка”, “адзіная твая жанчына” [1, с. 73], “Жонка

законная” [1, с. 78] і г. д.), а лірычны герой (аб’ект пачуцця) – з’ява звышматэрыяльная, амаль што незямная. Як бачна з вышэй прыведзенай вершаванай страфы, лірычная гераіня параўноўвае свайго каханага з Сынам Божым. Падобная думка гучыць і ў вершы “Ластаўка”:

Што глядзіш?
Нібыта ўваскрэс
Толькі што…
Я не анёл, канешне [1, с. 69].

Відавочна, што і тут назіраецца пэўнае супрацьпастаўленне жаночага і мужчынскага пачаткаў, заснаванае на рэлігійнай прыкмеце. Лірычная гераіня верша пазбаўляецца якасцей праведніцы, а той, на каго накіравана яе пачуццё, ахутаны арэолам святасці.

У стварэнні паэткай эратычных карцін угадваецца прыхаваная міфалагема маці , што яшчэ раз пацвярджае і замацоўвае тэзіз аб духоўнасці кахання гераіні Н. Шкляравай: “І спавіты маім дыханнем / Ты заснеш, / Як дзіця над саском” [1, с. 71].

Але гэты вобраз, які, здавалася б, зусім не стасуецца з пачуццёва-пажадлівымі малюнкамі, удала ўпісваецца ў агульную характарыстыку інтымнай лірыкі паэткі, надаючы такім чынам твору асабліва глыбокі духоўны змест. Дадатковае ж адценне эратычнасці тут узнікае першым чынам ад таго, што паэт – жанчына. Часам эратызм у Н. Шкляравай малюецца з тонка прыхаванай іроніяй:

І я цябе, мой саламяны хлопец,
Так прыгалублю перавяслам рук,
Што ты забудзеш пра свае хваробы
І прарасцеш, як парастак праз брук,
І зноў зазелянееш… [1, с. 64].

Эротыка і прырода непарыўна звязаны ў лірыцы паэткі, што, у сваю чаргу, указвае на элементы язычніцкага

светаўспрымання. “Пабеглі ў арэшнік” [1, с. 69], – заклікае лірычная гераіня верша, звяртаючыся да свайго каханага. Яна верыць, што насуперак лёсу і абставінам можна, а галоўнае, трэба кахаць. Бо цела без кахання ў Н. Шкляравай “бяздумнае”, яно, “нібы храм апусцелы” [1, с. 79].

Такім чынам, эратычныя традыцыі ў сферы інтымнай лірыкі, распачатыя яшчэ некалькі стагоддзяў таму, знаходзяць сваё адлюстраванне і ў творчасці Н. Шкляравай. Іншая справа, што межы вечнай тэмы, своеасаблівая сістэма табу парушаны. Паэтка ўдала пераплятае эратычную тэму з фальклорнымі і хрысціянскімі матывамі. Духоўны пачатак ўвасоблены, галоўным чынам, у вобразе лірычнага героя, які, па сутнасці, і не дзейнічае ў творах. Ён выступае як бы з’явай абстрактнай, звышматэрыяльнай, носьбітам адухоўленых аўтарскіх фантазій. Эрас як аснова вітальнага пачатку ў творчасці Н. Шкляравай становіцца асноватворчым складнікам, без якога не магчыма паўнавартаснае існаванне мастацкіх персанажаў.

## Літаратура


1. Шклярава, Н. Аканіцы [Тэкст] : вершы і пераклады / Н. Шклярава. – Мн. : Беларуская навука, 2007. – 192 с.
2. Бараноўскі, А. Спецыфіка эрасу ў творчасці Ніны Шкляравай: сінтэз хрысціянскага і язычніцкага пачаткаў [Тэкст] / А. Бараноўскі // Хрысціянскі гуманізм і яго традыцыі ў славянскай культуры (зборнік навуковых артыкулаў “ГГУ імя Ф. Скарыны”). – 2009. – Выпуск 1. – С.148 – 150.

# АСАБЛІВАСЦІ ВЫКАРЫСТАННЯ МЕТАФАР, ЭПІТЭТАЎ У ПАЭТЫЧНЫХ ТЭКСТАХ Н. ШКЛЯРАВАЙ

Сучасны літаратурны працэс патрабуе ад аўтара невымерных намаганняў на карысць формы і зместу. Гульня з рыфмай і рытмам, вобразнымі сродкамі (што само па сабе няблага) часта з'яўляецца прыкметай не столькі іскрамётнага таленту, колькі імкненнем да неапраўданага моднічання. У сітуацыі сённяшняга літаратурнага працэсу прыходзіш да высновы: класічны падмурак невынішчальны. На прыкладзе лірыкі Ніны Шкляравай мы паспрабуем даказаць вышэй адзначаны тэзіс.

Н. Шклярава – выбітная беларуская паэтэса, а яшчэ яна – аўтар дзіцячай кнігі "Красворды і загадкі для вашага дзіцяткі". Па словах сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі А. Ананьева, "Большасць вершаў Ніны Шкляравай нават без музычнага суправаджэння гучаць як дзіцячая прыпеўка" [1, с. 91].

Творчасць Н. Шкляравай – сапраўдная скарбонка эпітэтаў, параўнанняў, метафар. Удала выкарыстоўваючы мастацкія тропы ў вершах, паэтэса дакладна перадае ўнутраны стан лірычнай гераіні, якая вельмі часта супадае з асобай аўтаркі ("**Я** не жыла", "**Я** пасадзіла", "Слёзы **мае**" і інш.). Пераплятаючы паміж сабой несумяшчальныя, а часам нават і супярэчлівыя, словы паэтка стварае моцныя вобразы Чарнобыля, надзяляючы яго эпітэтам *прыручаны*. Н. Шклярава добра адчувае акаляючы свет, заўважае кожную дробязь, вымалёўвае кожную дэталь зямнога быцця. Так, прамень у аўтаркі *босы*, рэчкі *атручаныя*, падлескі ў паэтычным свеце творцы *"туляцца да лесу"*, *"А гадкі ў радкі"* нібыта сядзяць на пянёчках. Такімі паўстаюць вершы нашай зямлячкі, паэтэсы Н. Шкляравай: блізкія і аддаленыя, вялікія і маленькія, простыя і супярэчлівыя, сціплыя і годныя, як сама паэтка, як сама жанчына.

Мова – заўсёды актуальны матэрыял для яе носьбітаў. Вобразныя сродкі ў паэтычных тэкстах Н. Шкляравай уяўляюць сабой таксама культурна-эстэтычны матэрыял. Дарэчы тут будзе выкарыстаць цытату Т. Федарцовай з артыкула "На кругі свая": "Мова паэтэсы, што пачалася ад жывога слоўка матулі і казак бацькі, паступова ўвабрала ў сябе вобразную лексіку вяскоўцаў, узбагаціла свой слоўнікавы запас, што ў сваю чаргу, папаўняе моўную скарбонку беларускай літаратуры" [2, с. 182]. Праілюструем: 1) *галамшывыя дрэвы* – голыя дрэвы з рэдкай лістотай; 2) *галамшывы чалавек* – асоба з рэдкімі валасамі на галаве і інш.

Праўдзівая веліч паэткі выяўляецца ў яе лірыцы. Лірыка гэтая – дзённік паўсядзённых дум, стройна-вывастраны і дасканалы як у літаратурнай апрацоўцы, так і па самой сваёй прыродзе: "Слоўнік Ніны Шкляравай гэта перш за ўсё скарбонка вобразаў і метафар, трапных выслоўяў розных эпітэтаў і параўнанняў. Паэтэса – майстар кідкага слова" [2, с. 182]. У асобных вершах ствараецца атмасфера шчырай, непасрэднай размовы, сведкам або субяседнікам у якой часам становіцца сам чытач:

Ведаеце, сёння
Я плакала спрасоння [3, с. 9].

Вось тады я і спазнала,
Што такое гора,
Калі вольнай птушкай стала,
Пабыла за морам [4, с. 13].

Нават яе пераклады набываюць пазнавальную шкляраўскую стылістычную афарбоўку:

Не тое бяда, што князі –
Не падмога,
А тое, што часу няма
Залатога.
<...>
Важка насіць галаву,
Вельмі важка,

Дый без яе нам
Прыходзіцца цяжка [5, с. 1].

Як мастак, глыбокі мысляр і тонкі псіхолаг паўстае паэтка ў вершах, тэмы якіх вечныя: сэнс чалавечага быцця, прырода, любоў і нянавісць, сум і радасць, шчасце і бяда. Пры гэтым творца з найвялікшай дакладнасцю выкарыстоўвае вобразныя сродкі ў сваіх творах, яе эпітэты і метафары адрозніваюцца выключнай вастрынёй.

Актуальнасць даследавання вызначаецца неабходнасцю ўжывання тэорыі эпітэта і метафары да матэрыялу паэтычных тэкстаў Н. Шкляравай, што дазваляе разглядаць паказаныя вобразныя сродкі не як асобныя стылістычныя прыёмы, якія характарызуюць аўтара, а як асобнае звяно ў ланцугу развіцця беларускай літаратурнай мовы. Дастатковая колькасць філолагаў, літаратараў звярталіся да вывучэння творчасці Н. Шкляравай (У. Гніламёдаў, І. Чарота, Ф. Яўсееў, П. Прыходзька, А. Сыс, А. Грачанікаў, Ф. Яфімаў, Т. Федарцова, Ю. Фатнеў, Л. Вялічка, А. Ананьеў і інш.), але пытанне па вызначэнні і аналізе вобразна-выяўленчых сродкаў у мове яе твораў застаецца актуальным і сёння. Таму варта вызначыць мэтай дадзенага раздзела – выяўленне функцыянальна-эстэтычных асаблівасцей сэнсавага напаўнення вобразных сродкаў у паэтычных тэкстах Н. Шкляравай.

Навізна працы складаецца ў тым, каб у выкарыстанні адначасова функцыянальнага аспекту даследавання з разглядам эстэтычнай інфармацыі дапоўніць ужо наяўны матэрыял вобразных сродкаў аналізам прыкладаў, сістэмна прадстаўленых у тэкстах паэтэсы, разгледзець слоўнікавы запас аўтара.

## ПАНЯЦЦЕ ТРОПАЎ, ІХ СТРУКТУРНА-СЕМАНТЫЧНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

У розных моўных стылях шырока выкарыстоўваюцца моўныя сродкі, якія ўзмацняюць характар выказвання. Гэтае ўзмацненне адбываецца дзякуючы таму, што да чыста лагічнага яго напаўнення дадаюцца розныя экспрэсіўна-эмацыянальныя адценні.

"Паэзія, – адзначаў В. Бялінскі, – ёсць вышэйшы род мастацтва. Усякае іншае мастацтва больш ці менш абмежавана ў сваёй творчай дзейнасці тым матэрыялам, пасродках якога яно выяўляецца... Таму паэзія змяшчае ў сабе ўсе элементы іншых мастацтваў, як бы карыстаецца ўсімі сродкамі, якія дадзены паасобку кожнаму з іншых мастацтваў. Паэзія ўяўляе сабой ўсю цэласць мастацтва, усю яго арганізацыю і, аб'ядноўваючы сабою ўсе яго бакі, складае ў сабе ясна і вызначана ўсе яго адрозненні" [6, с. 7].

Любое слова ўзнікае ў мове як назва прадмета, дзеяння, з'явы і г. д. У працэсе моўнай практыкі слова становіцца знакам пэўнага прадмета ці з'явы рэчаіснасці, і таму ў свядомасці людзей яно выклікае ўяўленне менавіта аб дадзеным прадмеце, з'яве. Уяўленне ж ўзнікае на аснове тых характэрных асаблівасцей, якія гэтым адзінкам уласцівы. Але з часам на аснове пэўнага падабенства адбываецца перанос назвы з аднаго прадмета (з'явы, дзеяння) на другі. Гэтае пераноснае значэнне і знаходзіцца ў падмурку з'яўлення тропаў.

### Метафара

Як адзін з відаў тропаў метафара вывучаецца ў паэтыцы (стылістыцы, рыторыцы, эстэтыцы), як крыніца новых значэнняў слоў – у лексікалогіі, як спосаб мыслення і спазнання рэчаіснасці – у логіцы, філасофіі і г. д. Найболей, відаць, метафара вывучана ў лексікалогіі. Чым больш

шматпрыкметным, інфарматыўна багатым і нерасчлененым з'яўляецца значэнне слова, тым лягчэй яно метафарызуецца.

Пад метафарай разумеюць слова або моўны зварот, ужыты ў пераносным значэнні для абазначэння прадмета або з'явы на аснове якой-небудзь аналогіі, падабенства. Гэты троп яшчэ больш, чым параўнанне, спрыяе ўзмацненню вобразнай яркасці матэрыялу. Метафара ў шэрагу выпадкаў стварае цэлую, закончаную карціну. Сам перанос назвы на аснове падабенства называецца метафарызацыяй, а новыя значэнні, якія з'яўляюцца ў выніку гэтага ў слове, – пераноснымі метафарычнымі значэннямі. Перанос назвы з аднаго прадмета на другі адбываецца ў наступных выпадках, калі два ці некалькі прадметаў падобны паміж сабой:

1) ***вонкавай формай***:

Ліхтар адзіны на знямелай вуліцы…
…У небе *воблакі,* як *вобла*. Клочча
Збірае *месяц* – *згорблены жабрак* [3, с. 41].

Відавочна, што гэта метафара, бо воблакі не атаясамліваюцца з воблай, яны маюць падобную да яе форму. Хаця не выключана, што гэта метафарызаванае параўнанне. У гэтым выпадку межы паміж паняццямі 'метафара' і 'эпітэт' размытыя.

Дрэмле поўні акраец,
Ды туман па калена [3, с. 19].

2) ***колерам:***

Дубок кідае міласціну ночы:
Апошні *ліст сухі* – *стары мядзяк* [3, с. 41].

Тут відавочнае падабенства па колеры. Сапраўды сухі ліст вельмі падобны да медзяка, такога ж бронзава-карычневага колеру.

Адцвілі дзьмухаўцы <u>*залатыя*</u>... [3, с. 80].

Па ступені вобразнасці і той функцыі, якую выконваюць у мове метафары, яны падзяляюцца на тры віды: *1) метафары-назвы; 2) вобразныя агульнапаэтычныя метафары; 3) індывідуальна-аўтарскія метафары.*

**Вобразныя агульнапаэтычныя метафары:**

Нібы кажа бабцы: “будзеш жыць”.
І ў той <u>сляза</u> з вачэй <u>бяжыць</u>... [3, с. 52].

Пакуль Чарнобыль <u>у душу глядзіць</u>... [3, с. 20].

Ціхай <u>радасцю свецяцца</u> двое,
Бо <u>вяселле</u> ў іх – <u>залатое</u>... [3, с. 80].

**Індывідуальна-аўтарскія метафары:**

Ля сцен мітусяцца... <u>Сланечнік бязвухі</u>
<u>Чупрынай дастаў аж да шыбіны хаты</u> [3, с. 54].

<u>Акунуся ў маладосць</u>,
Як у рэчку коні [3, с. 55].

<u>Упаду расою</u> на траву,
<u>Васільком памкнуся</u> ў сіняву,
<u>За прамень схаплюся –</u>
І жыву! [3, с. 59].

Не закахайся ты ў зязюлю,
Яна <u>ўкрадзе</u> твае <u>гады</u>... [3, с. 76].

<u>Хата</u> з саламянаю страхою
<u>Закурыла</u> ў цішыні садоў... [3, с. 45].

Мае з <u>бядою</u> аднолькавы колер –

Чорны боль мой… [3, с. 44].

Яркай вобразнасцю вызначаюцца таксама словы з пераносным метафарычным значэннем у наступных прыкладах:

Прарастаю праз слёзы
Думкамі грэшнымі,
Прарастаю ў нябёсы
Кволымі вершамі [3, с. 56].

Збіраю шолахі вятроў і траў
[3, с. 57].

Магчымасць развіцця ў слове пераносных значэнняў стварае магутную процівагу ўтварэнню бясконцай колькасці новых слоў. На гэты конт Я. Парандоўскі адзначаў: “Метафора выручает словотворчество: без метафоры словотворчество было бы обречено на непрерывное производство все новых и новых слов и отяготило бы человеческую память неимоверным грузом” [7, с. 157–158].

Такім чынам, метафарычнае бачанне свету – адна з адзнак таленту творчай асобы. Самае галоўнае для ўтварэння метафары – новае, нечаканае бачанне і асэнсавання ўжо вядомых з’яў і прадметаў, іх прымет і дзеянняў. Метафары ўносяць у кантэкст навізну поглядаў на навакольны свет, элемент нечаканасці і першаадкрыцця рэчаіснасці.

## Асаблівасці выкарыстання метафары

Паэзія ёсць метафара. Метафара ляжыць у аснове паэзіі і паэтычная функцыя гэтага мастацкага сродку добра вывучана. У паэзіі метафара на аснове частковага падабенства двух аб'ектаў робіць “ілжывае” сцвярджэнне аб іх поўнай тоеснасці. І менавіта гэтае перабольшанне надае ёй паэтычную сілу. Прыгажосць метафары пачынае ззяць тады, калі канчаецца яе праўдзівасць. Але і наадварот, не

можа існаваць паэтычнай метафары, якая б не адкрывала сапраўднай рэальнасці.

Усякая метафара разлічана на нелітаральнае ўспрыманне і патрабуе ад чытача ўменняў зразумець і адчуць створаны ёй вобраз – эмацыянальны эфект. Уменне бачыць другі план метафары і прыхаванае ў ім параўнанне неабходна для засваення вобразнага багацця літаратуры.

Існуе шэраг агульных заканамернасцей метафарызацыі значэння слоў, якія Н. Шклярава выкарыстоўвае ў сваіх паэтычных тэкстах. Для вершаў аўтаркі характэрны метафары, у якіх атрыбут прадмета ператвараецца ў атрыбут абстрактнага паняцця:

Пакуль Чарнобыль мне ў душу глядзіць,
Пакуль яго сыноў не ажывіць,
<u>Баліць!</u>
<u>Баліць</u>... [3, с. 20].

У сваёй лірыцы Н. Шклярава відавочна ідзе не ад загадзя зададзенай думкі, а хутчэй ад раптоўнай, якая захапіла яе пачуцці, выклікала пэўныя ўражанні, ад навеянай з'явамі вонкавага свету, навакольнай рэчаіснасці, хвілінным душэўным перажываннем:

Ты стаяў журбою нейкай апантаны,
Як па восені забыты баравік...
Калі так, то я – шчаслівейшы грыбнік.
Падхаплю руплва свой баравічок,
Асцярожненька згарну ж у кулачок.
Суцяшаць грыбніцу прыдзецца вужу,
Я ж нікому баравік не пакажу [4, с. 65].

Лірыка Н. Шкляравай заўсёды значная па сэнсе, звыклыя значэнні слоў у ёй часта ператвараюцца ў нязвыклыя *(Чарнобыль прыручаны).* У цэлым можна казаць аб метафарычнасці паэзіі Н. Шкляравай і павышанай асацыятыўнасці ў творчасці гэтай паэткі. Метафара

Н. Шкляравай дае прасвятленне – яна пранікае ў існасць рэчаў. Назіраецца перакананне ў тым, што любоў, каханне, жыццё, вернасць і ёсць сапраўдная сутнасць духоўнасці, таму і надзяляе паэтка шчодра гэтыя паняцці эпітэтамі, метафарамі, параўнаннямі.

## Паняцце эпітэта, яго ўласцівасці і функцыі

Аб эпітэце было сказана і напісана нямала. Першыя згадкі аб ім можна знайсці яшчэ ў антычных тэарэтыкаў – Арыстоцеля, Квінтыліяна. Нягледзячы на ўяўную прастату эпітэта ў шэрагу іншых стылістычных прыёмаў, цікавасць да яго не слабее. Квінтыліян адрознівае ўжыванне эпітэта аратарамі і паэтамі, адзначаючы пры гэтым, што паэты выкарыстоўваюць эпітэт значна часцей і задавольваюцца тым, каб эпітэт падыходзіў да азначаемага слова. У мове аратараў адбор эпітэтаў больш жорсткі: эпітэт не павінен быць залішнім, больш таго, пажадана, каб ён меў пераноснае значэнне. Шляхам набыцця гэтых новых якасцяў эпітэт становіцца тропам. Нягледзячы на даўнюю гісторыю гэтага паэтычнага прыёму, агульнапрынятага погляду на эпітэт у тэарэтыкаў няма. Выразнага азначэння паняцця "эпітэт" не існуе, хоць у сучасных лінгвістычных і паэтычных слоўніках падкрэсліваецца, што ён абавязкова павінен насіць вобразны, экспрэсіўны, трапічны (метафарычны) характар, даваць асобе, з'яве або прадмету дадатковую мастацкую характарыстыку ў выглядзе прыхаванага параўнання, якое лёгка адгадваецца. У. Жырмунскі, напрыклад, прапаноўвае лічыць эпітэтам толькі эпітэт у вузкім сэнсе, а ў астатніх выпадках, па меркаванні навукоўца, гаворка ідзе не пра эпітэты, а пра паэтычныя азначэнні [8, с. 359].

**Эпітэт** (ад грэч. epitheton – літаральна "прыдатак") – вобразнае (найчасцей метафарычнае) азначэнне, якое вылучае характэрную рысу прадмета, з'явы або дзеяння, дае ім эмацыянальна-экспрэсіўную ацэнку, узмацняе

выразнасць мовы. Эпітэты дапамагаюць вобразна ахарактарызаваць чалавека, прадмет, з'яву, падзею, перадаць свае пачуцці і перажыванні, выказаць адносіны да навакольнага свету. У залежнасці ад ужывальнасці эпітэтаў-азначэнняў з тымі ці іншымі назоўнікамі іх падзяляюць на тры групы: **агульнамоўныя (звыклыя), індывідуальна-аўтарскія (рэдкасныя), народна-паэтычныя (сталыя).**

**Агульнамоўныя** – найбольш ўжывальныя сярод эпітэтаў словы. Словы з прамым і пераносным значэннем, стылістычна афарбаваныя і нейтральныя, характэрныя розным стылям мовы:

Гомельшчына любая мая,
Родная спрадвеку мне зямліца [3, с. 11].

І адорыць мой нялёгкі лёс
Чыстаю азёрнаю вадзіцай [3, с. 11].

Тут гуляе рэха Хірасімы
І пацiху чэзне добры люд... [3, с. 17].

Слоў тваіх прагнуць засмяглыя вусны [3, с. 18].

Цікава, што, узгадваючы тэму роднай мовы ў дачыненні да *вуснаў*, паэтэса выкарыстоўвае эпітэт *засмяглыя*, бо гэта вусны, якія прагнуць вымавіць матчына слова, слова, што, нібыта гаючая вада, акропіць "засмяглыя вусны", надасць ім жыцця.

Зямельку ж Н. Шклярава шчодра надзяляе эпітэтам *родная, запаветная. Запаветная → запавет,* які трэба несці і захоўваць для будучых пакаленняў.

Бо, сябры, зямелька ў нас адна:
Родная для ўсіх і запаветная,
І найдаражэйшая яна [3, с. 33].

А не для таго, каб ворагі
Спалілі яе з хацінаю

І з крыкам тваім жахлівым,
Сыночак мой! [3, с. 43].

**Індывідуальна-аўтарскія** – (аказіянальныя) эпітэты, што вызначаюцца арыгінальнасцю, самабытнасцю мастацкага ўжывання. Іх індывідуальны характар абумоўліваецца спецыфікай аўтарскага стылю:

Мова мая! Сіраціна бязгрэшная!
Што ж ты забілася ў самы куточак?
І пазіраеш вачамі няўцешнымі,
І гаварыць са мною не хочаш [3, с. 19].

Па сутнасці спалучэнне эпітэта *няўцешныя* з назоўнікам *вочы* з'яўляюцца, хутчэй за ўсё, эпітэтам сталым (фальклорным), але дачыненне да "*мовы*" (няўцешныя вочы мовы) набліжае яго да індывідуальна-аўтарскіх (аказіянальных) эпітэтаў:

Закрыю вочы, прыгадаю...
...Вясёлку рэзвую над гаем... [3, с. 28].

Запляту бярозкам косы,
Упляту рамонкі-кветкі,
І прамень заўважу босы,
Зіхатлівы за палеткам [3, с. 45].

Аўтарскае наватарства ў галіне выкарыстання эпітэтаў бясспрэчнае. Босы прамень – гэта сапраўдная паэтычная знаходка.

Часам звыклыя эпітэты, уведзеныя ў кантэкст па прынцыпе сугучча, ствараюць не толькі зрокавую карціну мастацкай прасторы, але і гукавую. Ці не чуецца нам гуд чмяля ў прыведзеных радках:

**Н**апое**н**ы **н**астоем тра**ў**,
П**д**ы**ў** **в**ечар **у** сады.

Чмедь, стомлены ад тлумных спраў,
Прысеў абы-куды [3, с. 63].

Успамінаючы сваю малую радзіму, мясціны блізкія і знаёмыя з дзяцінства, Воленку – лес, дзе калісь збірала ягады, паэтка піша:

Мне б галінку алешыны
З нашай арэхавай Воленкі… [3, с. 48].

Узнікненне эпітэта, выкарыстанага вышэй, хутчэй за ўсё абумоўлена тым, што ў месцы, пра якое ўзгадваецца ў вершы, шмат арэхавых дрэў.

Душу сагрэе раптам
Кволы вершык [3, с. 88].

Мы ісціну адшукваем упарта (верш "Ісціна)

Ісціна ж у аднайменным вершы ў Н. Шкляравай "аголеная", "абноўленая", "акрэсленая".

Калі паэтка ўспамінае пра мінулае народа, пра чарнобыльскую трагедыю, у вершах ўзнікаюць эпітэты, нязвыклыя, амаль што аксюмаранныя:

Як жабрачка глухая,
Нібы "аглашэнная",
Сцежкай роднай блукаю,
Паэтка блажэнная.
Буду каняю плакаць
Ля рэчак атручаных.
А за мной, як сабака,
Чарнобыль прыручаны [3, с. 19].

Калі прааналізаваць вышэй прыведзены верш, само сабою ўзнікае пытанне, а чаму паэтка параўноўвае сябе з глухой жабрачкай, чаму яна надзяляе сябе менавіта такім

эпітэтам. Здавалася б, паняцце *"паэт"* і эпітэт *"глухі(-ая)"* – несумяшчальныя, супярэчлівыя, нават аксюмаранныя. Як можа паэт быць чулым да навакольнага свету, да яго праблем і клопатаў, калі ён, карыстаючыся эпітэтам Н. Шкляравай, глухі?

Не можа не прыцягваць увагу эпітэт *"прыручаны"*, калі ён выкарыстоўваецца ў дачыненні да слова Чарнобыль, з'явы, якая не толькі што не прыручана, а, наадварот, невядома якія вынікі можа выклікаць у будучым. Радыяцыю ж Н. Шклярава таксама надзяляе вялікай колькасцю эпітэтаў: *"ветравая і верхавая, штохвілінная і штогадзінная"* [3, с. 21]. Прафесіяналізм сапраўднага паэта, напэўна, і заключаецца ў тым, каб дапамагчы чытачу на звыклыя, штодзённыя рэчы паглядзець па-новаму, адкрыць іх з іншага боку.

Такім чынам, вяртаючыся да паняцця "эпітэта", можна адзначыць, што ён у мастацкім творы можа выконваць розныя функцыі:

- вобразна ахарактарызаваць прадмет: *шчокі сухія;*
- стварыць атмасферу, настрой: *ноч сляпая;*
- перадаць стаўленне аўтара (лірычнага героя) да прадмета: *"Прыдзі, прыдзі, прыдзіра!"* [3, с. 73].

У якасці эпітэтаў могуць выкарыстоўвацца і назоўнікі, якія выконваюць ролю прыдаткаў, выказнікаў, яны таксама даюць вобразную характарыстыку: "Мой верш – мелодыя найперш..." [3, с. 58], "Душа – сухадол, ні ракі, ні азерца..." [3, с. 43], "Птушкі-невялічкі", "Трэсці грушу-дзічку" [3, с. 55].

Эпітэт як сродак характарыстыкі ў мастацкім тэксце можа выконваць дзве асноўныя функцыі: канкрэтызаваць апісанне, дапаўняючы створаную ўяўленнем чытача карціну новымі дэталямі, і ўзмацняць эмацыянальны эфект, створаны тэкстам. Гэтыя функцыі не з'яўляюцца ўзаемавыключальнымі: адзін і той жа эпітэт здольны вырашаць абедзве задачы; больш таго, эпітэт, абсалютна пазбаўлены другой функцыі, у паэтычным тэксце становіцца залішнім, замінае ўспрыманню. Тым не менш, адрозніваць гэтыя функцыі важна, паколькі "выяўленчая"

функцыя эпітэта з'яўляецца дадатковай і вельмі істотнай у адносінах да агульнай мэты паэтычнага тэксту.

Немалы ўклад у тэорыю эпітэта ўнёс У. Жырмунскі, размежаваўшы ўжыванне тэрміна "эпітэт" у вузкім і шырокім сэнсе. У шырокім сэнсе эпітэт разумеецца як азначэнне (адзін з прыёмаў паэтычнага стылю). Аднак першапачаткова эпітэт разумеўся вузей, толькі як паэтычнае азначэнне, якое не ўносіла новых прыкмет у азначаемае паняцце. Іншыя даследчыкі засяроджваюць сваю ўвагу на асобным, прыватным аспекце вывучэння эпітэта або вывучэнні пэўнага віду эпітэтаў.

Падводзячы вынік разгляду паняцця "эпітэт" і адпаведнага кола з'яў айчыннай філалагічнай навукі, можна сказаць, што разуменне эпітэта заўсёды напрамую звязана поглядамі на мастацкі тэкст увогуле.

## Параўнанне

**Параўнанне** – прыпадабненне аднаго прадмета да другога на аснове іх агульнай прыметы з мэтай узмацнення выразнасці яго характарыстыкі. Параўнанні падзяляюцца на простыя і разгорнутыя, злучнікавыя і бяззлучнікавыя. Адрозніваюцца параўнанні і сродкамі выражэння.

**Простыя параўнанні** – параўнанні, якія не абцяжараны дадатковымі элементамі (неразвітыя). Іх структурная схема: *злучнік + параўнанне-слова*. Па сродках выражэння гэтыя тропы можна размежаваць:

***а) са структурнай схемай "бы / нібы / нібыта / быццам" + параўнанне-слова:***

Я кнігу раскрыю,
Нібы аканіцы [3, с. 33].

А гады, бы кароста... [3, с. 79].

Месяц, нібыта манах, ўсю ночку
Свечкі запальваў у высях [3, с. 12].

Яго адфутболяць,
Нібыта камяк… [3, с. 16].

А дажджынкі, быццам кулі,
Сыплюцца пад ногі [3, с. 41].

***б) параўнанні з прыназоўнікамі:***

Ціха, бы ў капліцы [3, с. 78].

Углядаюся ў раку,
Нібы ў люстэрка [3, с. 55].

Бяссонніца адна,
Як з малымі,
Любіць забаўляцца [3, с. 9].

Вочы свецяцца,
Як у дзяўчынкі [3, с. 82].

***в) са структурнай схемай "як"+ параўнанне-слова:***

Як хлапчанё, якое вершы
Не пераносіла й на дых… [3, с. 23].

Радкі, як пчолка,
Свае збіраю [3, с. 57].

На старэнькім, як сама, пяньку
Села бабка [3, с. 52].

А дзянёчкі ляцяць,
Як лісточкі [3, с. 80].

Дні падобны, як сёстры... [3, с. 79].

Як медзякі, дрэўка лісце кідае [3, с. 22].

Над намі, як анёл,
Бялюткі снег... [3, с. 23].

Як музыка, як песня,
Ён кліча за сабой[3, с. 84].

**Бяззлучнікавае параўнанне** – параўнанне, якое ўводзіцца ў мастацкі тэкст без удзелу злучнікаў. Сродак выражэння бяззлучнікавых параўнанняў – назоўнікі без прыназоўніка ў творным (альбо любым іншым склоне).

**Творны склон:**

Дзічак аблізанай аладкай
Віднеецца. Яго рака
Ніяк не можа праглынуць [3, с. 36].

А вёска наша партызанкай
Стаіць паміж бяроз і хвой [3, с. 53].

Крочу, быццам па ільду,
Жонкаю законнаю.
І назад наадварот –
Вольнай маладзіцаю... [3, с. 78].

Зіма была
Стараннай гаспадыняй... [3, с. 23].

**Назоўны склон:**

А пакуль жыццё маё – іржышча...

Я ж – табой забыты.
Чарнавік [3, с. 24].

**Параўнанне выконвае функцыю прыдатка:**

Зорачкі-гарэзы, як смяшынкі,
Весела мігаюць ліхтару [3, с. 46].

**Разгорнутыя** – ускладненыя дадатковымі элементамі (прыметнікамі, займеннікамі і г. д.) параўнанні. Сярод іх можна вылучыць параўнанні – сказы і параўнанні – словазлучэнні.

**Параўнанні-сказы:**

Было ўсё гэта так даўно,
Як у пустой хаціне цені [3, с. 56].

Мае нязбытыя надзеі,
Як чэрві поўзаюць па мне...
Я песню вам нясу аберуч,
Як свечку у далонях Бог [3, с. 87].

Як на бальнічным ложку хворы,
Відаць, махнуў на ўсё рукой... [3, с. 23].

**Параўнанні-словазлучэнні:**

Заплача мой лёс,
Як малое шчаня... [3, с. 6].

Пакуль і сам у гэта верыш,
Як і абшарпаны жабрак... [3, с. 19].

Яго не стаптаць,
Як мурог каля плота... [3, с. 30].

Стаю, як ля селішча бусел [6, с. 22].

Але я знайду заўсёды,
Як на ўзоры вышываным... [3, с. 45].

Жоўтую руку
Палажыла,
Нібы ліст сухі [3, с. 52].

**Аказіянальныя параўнанні** (уласнааўтарскія) – параўнанні, вынайдзеныя непасрэдна самім аўтарам, яны з’яўляюцца яго творчым набыткам:

Нібы вашаняты ў чупрыне – зярняты
(пра сланечнік) [3, с. 54].

І я выжывала, як гэты сланечнік,
Але ж не прапала дагэтуль, дарэчы [3, с. 54].

Ветразь скача, нібы лось,
Хвалі – у пагоню [3, с. 54].

Дзень і ноч, нібы тая яешня... [3, с. 79].

А цяпер, нібы храм апусцелы... (гаворка ідзе пра цела) [3, с. 79].

Такім чынам, параўнанне – сродак распазнавання, пазнавання, нават успрымання рэчаў, і не толькі рэчаў. Параўнанне ва ўсіх, без выключэння, мовах – яркі паэтычны сродак. Як заўважна з прыведзеных вышэй прыкладаў, параўнанне граматычна афармляецца злучнікам (як, нібы, бы і інш.) Радзей сустракаюцца параўнанні, выражаныя назоўнікам у творным склоне. Параўнанне робіць тэкст жывапісным, наглядным, па-мастацку дакладным, выяўляе эмацыянальныя адносіны аўтара да таго, пра што ён піша: “Квітней, Беларусь, /...як неба ў азерцы, / Як зрэнка ў воку, / Як сонейка яснае!..” [3, с. 61].

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Сярод асноўных адзінак мовы важная роля належыць слову. Валодаць мовай – гэта значыць не толькі засвоіць пэўную колькасць гукаў, слоў, розных тыпаў словазлучэнняў і канструкцый сказаў, але і ўмець імі *карыстацца. Разам з тым гэта азначае і ўменне выбраць у* дадзенай сітуацыі патрэбныя моўныя адзінкі. Іншая справа з мастацка-вобразнымі словамі або выразамі, якія ўзбагачаюць мову, надаюць ёй своеасаблівае гучанне і каларыт, бо яны могуць выклікаць цяжкасці пры выкарыстанні ў тых, хто дрэнна валодае мовай.

Лірыка Н. Шклярвавай вельмі багатая па сваёй сутнасці, яна ўтрымлівае ў сабе розныя вобразныя сродкі, з дапамогай якіх паэтка даносіць да нас свае перажыванні, эмоцыі, пачуцці. Яе метафары, эпітэты і параўнанні раскрываюць невычэрпныя багацці роднай мовы, выяўляюць усе адценні слова і напаўняюць яго новым гучаннем і глыбокім сэнсам.

Прааналізаваўшы паэтычныя тэксты Н. Шклярвавай, можна яшчэ раз пераканацца ў тым, што метафарычнасць мыслення – характарная рыса аўтаркі. “Паэзія Ніны Шклярвавай зусім не пасіўна-сузіральнай тэматыкі, што характэрна «распевачнаму» пачатку ў вершах некаторых аўтараў. У яе творах чытач знойдзе і глыбокі роздум, і псіхалагічныя высновы, і народную мудрасць, і, галоўнае, – дух, ці як зараз гавораць, энергетыку, якая жывіць кожны радок і кожнае слова”, – слушна заўважыла даследчыца Т. Федарцова [2, с. 182].

Вобразныя сродкі для Н. Шклярвавай – асноўны прыём пабудовы ў лірыцы. Велізарнае значэнне ў апошняй творчасці атрымліваюць метафарычныя эпітэты. Яны з асаблівай сілай выяўляюць рамантычнае светаўспрыманне паэткі. Сістэма вобразных сродкаў Н. Шклярвавай нацэленая на стварэнне дадатковага свету, напоўненага непасрэднай сувяззю паміж прыродай і чалавекам.

Тэксты Н. Шклярaвай становяцца своеасаблівым даведнікам па гэтым свеце і адначасова правадыром у яго:

Мне мой край і пеклам быў і раем,
Ды чужы не мроіцца і ў сне,
Бо не я радзіму выбіраю,
А Радзіма выбрала мяне [4, с. 9].

Блізкай, але да канца неспазнанай застаецца для нас творчая асоба паэтэсы Ніны Шклярaвай. Цікавыя вобразы, глыбінныя пачуцці, апраўленыя ў дасканала падабраныя словы і моўныя сродкі, не пакідаюць абыякавымі нікога. Паэтычная мова аўтаркі – бясконцая скарбонка мастацкіх сродкаў. Разгляд лексікі, эпітэтаў, асаблівага характару параўнанняў, метафар, ролі рытму і гуку, – усё гэта набывае праўдзівую цікавасць толькі тады, калі маўленчыя прыкметы становяцца вектарамі, якія кіруюць ў глыб паэтычнага мастацтва, выяўляюць сувязі ідэі паэта з яго мастацкім стылем.

Вобразныя сродкі лірыкі Ніны Шклярaвай дапамагаюць стварыць паэтэсе эмацыйна-пачуццёвы і вонкава-прадметны план мастацкага свету. Яе метафары, эпітэты і параўнанні дазваляюць зразумець і пераасэнсаваць багатыя магчымасці роднай мовы. Мастацкія сродкі выяўляюць не толькі вонкава ўспрынятую гармонію і прыгажосць, але і таямнічае глыбіннае жыццё прыроды.

## Літаратура

1. Ананьеў, А. Алфавіт у красфордах і загадках [Тэкст] / А. Ананьеў. – Роднае слова. – №3. – С. 91.
2. Федарцова, Т. На кругі свая [Тэкст] / Т. Федарцова // Полымя. – 2009. – №3. – 182 – 186 с.
3. Шклярава, Н. Аканіцы [Тэкст] : вершы і пераклады / Н. Шклярава. – Мн. : Беларуская навука, 2007. – 192 с.
4. Шклярава, Н. Дзічка [Тэкст] : вершы / Н. Шклярава. – Гомель.: Палесдрук, 2001. – 96 с.

5. Шклярава, Н. Слова пра паход Ігаравы [Тэкст] / Н. Шклярава // Гоман. – 2006. – Выпуск 2. – С. 315.
6. Белинский, В. Полное собрание сочинений у 13 т., Т. 5 [Текст] / В. Белинский / СССР : Академия наук, 1953–1959. – 857 с.
7. Парандовский, Я. Алхимия слова [Текст] / Я. Парандовский. – М. : Правда, 1990. – 228 с.
8. Жырмундский, В. К вопросу об эпитете : Теория литературы. *Поэтика. Стилистика* [Текст] / *В. Жырмундский . – Л. :* 1977. – 407 с.
9. Шклярава, Н. Аберуч [Тэкст] : пераклады, вершы / Н. Шклярава. – Гомель: Барк, 2007. – 60 с.
10. Шклярава, Н. Мая вёска [Тэкст] : вершы / Н. Шклярава. – Мн. : Беларусь, 1971. – 60 с.
11. Шклярава, Н. Міг і вечнасць [Тэкст] / Н. Шклярава. – Мн. : Маст. літ., 1979. – 70 с.
12. Юрэвіч, А. Стылістыка беларускай мовы [Тэкст] : вучэбны дапаможнік / А. Юрэвіч. – Мн. : Вышэйшая школа, 1992. – 288 с.
13. Красней, В. Грані слова [Тэкст] : факультатыўны курс / В. Красней. – Мн. : Народная асвета, 1992. – 175 с.
14. Станкевіч, А. Рыторыка ў тэрмінах, паняццях і парадах [Тэкст] : дапаможнік для філалагічных спецыяльнасцей ВНУ / А. Станкевіч. – Гомель : УА “ГДУ імя Ф. Скарыны”, 2003. – 159 с.
15. Ціхоцкі, М. Сугучнасць слоў жывых: нататкі па стлылістыцы [Тэкст] / М. Ціхоцкі. – Мн. : Выдавецтва БДУ, 1981. – 191 с.

## ХАЙ ПАЧУЕ БОГ...
## ІНТЭРВ'Ю З Н. Н. ШКЛЯРАВАЙ

**Якой Вам бачыцца будучае беларускай літаратуры?**

Будучае беларускай літаратуры бачыцца мне ў яднанні ўсіх творчых сіл Беларусі, у іх запатрабаванасці як на сваёй Радзіме, так і за яе межамі. Без падтрымкі дзяржавы тут не абысціся.

Уяўляю заўтрашні дзень: іду па гораду – і ў любым газетным кіёску магу купіць «ЛіМ», «Краязнаўчую газету», часопіс «Роднае слова»... А ў гэты час па радыё і тэлебачанні, ва ўсіх перыядычных выданнях праводзяцца літаратурныя конкурсы і чытанні. І галоўнае – выдаюцца кнігі. Сам пісьменнік ідзе ў народ, робіць прэзентацыю і сваімі вачамі бачыць, наколькі зацікавіліся яго творам людзі.

Асабіста я веру, што беларуская літаратура калі-небудзь стане адкрыццём для цэлага свету, як і наша беларуская мова, якая не згубіла сваёй повязі з іншымі славянскімі мовамі. Думаю, што на аснове беларускай літаратуры адбудзецца адраджэнне шматвяковай славянскай гісторыі і культуры.

**Хто, на Ваш погляд, вызначае сёння аблічча беларускай літаратуры: у прозе, у паэзіі, у драматургіі, у літаратурнай крытыцы?**

Аблічча беларускай літаратуры зараз вызначаюць тыя пісьменнікі, якія клапоцяцца аб вартасцях сваіх твораў, а не толькі аб уладжванні свайго дабрабыту. Хоць гэта таксама важна, але ж не важней за ўласную годнасць!

Трэба знайсці ў сабе сілы пісаць нават тады, калі здаецца, што гэта нікому ўжо не трэба. Пісаць і клапаціцца аб узроўні напісанага. Таму што твае творы –адлюстраванне тваёй душы і твайго таленту. У тэтым сэнсе я схіляюся перад паэзіяй А. Грачанікава, А. Сыса, Я. Янішчыц, Р. Барадуліна, М. Мятліцкага, Р. Баравіковай, А. Разанава,

А. Вярцінскага. Спадзяюся, што дапоўняць гэты рад маладыя аўтары Алесь Бараноўскі і Ганна Новік.

**Дзякуй!**

На скрыжаванні дзвюх культур – беларускай і рускай – расце цікавасць людзей да беларускай мовы. Бо на ёй годна і велічна гучаць пераклады з любой мовы свету, у тым ліку і са старарускай мовы. Напрыклад, "Слова пра паход Ігаравы». Новымі, незвычайнымі гранямі пераліваюцца на мове Купалы і Коласа вершы нашых рускамоўных аўтараў Фелікса Мысліцкага, Івана Бісева, Алены Агінай, Юрыя Фатнева і іншых.

З празаікаў мне даспадобы творы Уладзіміра Караткевіча, Міхася Стральцова, Івана Шамякіна; гістарычныя раманы Вольгі Іпатавай і проза Генрыха Далідовіча, а таксама аповесці нашага земляка Уладзіміра Гаўрыловіча.

Драматургію ведаю горш. Маё пакаленне вернае Андрэю Макаёнку. Ходзім у Гомельскі драматычны тэатр і на прэзентацыі Васіля Ткачова. Цікавы для мяне і малады творца Андрэй Курэйчык, і больш сталыя сцэнарысты і драматургі – Аляксей Дудараў, Георгій Марчук, Сяргей Трахімёнак.

Крытыка, на жаль, адстае. Часта можна сустрэць артыкулы Алеся Марціновіча і Алеся Карлюкевіча. Слушна выступае на старонках газет і часопісаў Леанід Галубовіч (ЛеГал). Кранаюць разважлівая даследаванні творчасці пісьменнікаў крытыкамі і літаратуразнаўцамі (І. Штэйнер, У. Гніламёдаў, І. Чарота). Але ўсё ж па-за ўвагай іншы раз застаюцца значныя з'явы ў беларускай літаратуры – напрыклад, кніга паэзіі «Ксты» Рыгора Барадуліна, а таксама навінкі выдавецтваў. Лічу, што абыякавасць да творчасці пісьменніка, яго незапатрабаванасць губіць не толькі творчасць, але і самога аўтара як асобу... Таму і ствараецца ўражанне шго галоўны герой нашага часу – гэта

народ, што, як зацюканы апостал, пераходзіць з аднаго твора ў другі ў пошуках самога сябе.

**Хто ён, герой нашага часу – з пункту гледжання пісьменніка?**

Галоўным героем, па майму глыбокаму перакананню, павінна быць Радзіма, родная зямля — як гэта і вядзецца спрадвеку. І вядома, чалавек з усімі сваімі слабасцямі, які годна жыве на сваёй зямлі, любіць яе і не замінае дарогу іншым.

Хай мастак усім малюе неба,
Хай мой верш да неба даляціць,
Хай святар памоліцца як трэба,
Хай пачуе Бог, каб з намі быць.

**Адкажыце, калі ласка, кім, на вашу думку, з’яўляецца паэт (дэміургам, мэдыумам ці звычайным чалавекам)? І, адпаведна, што ёсць паэзія?**

Наўрад ці зможа адказаць на гэта пытанне хоць адзін паэт. Я таксама не магу. А калі прыду да тагога ўсведамлення, я ўжо буду не паэтэсай, бо ўпэўнена ў тым, “што слова было ў Бога”.

**Паважаная Ніна Нічыпараўна! Сёння, згодна з агульнапрынятымі меркаваннямі, наша літаратура перажывае не самыя лепшыя часы. На працягу стагоддзяў паэты і пісьменнікі былі сапраўднымі ўладарамі дум свайго грамадства. Сёння ж “высокая” літаратура з’яўляецца прэрагатывай нямногіх (так званай эліты). Чаму, на Ваш погляд, развіваецца і набірае моц працэс страты цікавасці да мастацкага слова ў шырокага кола чытачў? Ці існуюць, на Ваш погляд, у рамках сучаснай айчыннай літаратуры, з'явы,**

**якія прама або ўскосна спрыяюць гэтаму разбуральнаму працэсу?**

Калі верш ці апавяданне цікавае, змястоўнае, своеасаблівае, мае навізну або свой погляд і стыль, то і на рускай, і на беларускай мове знойдзе сваю нішу. І рана ці позна дойдзе да чытача. А ў літаратуры не згадаеш: можа, пазней і лепш – ёсць на каго азірнуцца і з чым параўнаць. А ўвогуле моладзь пацягнулася да нас. І сёння ў школе-студыі, якае працуе пры Гомельскім абласным Палацы творчасці дзяцей і моладзі шмат таленавітай змены. Многія са студыйцаў ўжо маюць свае першыя зборнікі, а некаторыя з іх нават не адзін. Я веру ў будучае беларускай літаратуры. Якімі б ні былі разбуральныя працэсы, карані ў нас глыбокія. Утрымаемся. Бачылі, як на разбураным радовішчы цвіце вясной дзічка і пускае атожылкі?

Будзем разам,
Калі сонца свеціць,
Азарае промнямі душу,
Калі ж раптам
Завіхурыць вецер,
"Будзем разам!" –
Зноўку я скажу.

**Ніна Нічыпараўна, на Гомельшчыне часта праводзяцца рознага кшталту літаратурныя конкурсы, якія адкрываюць новыя імёны і таленты. Многія з мерапрыемстваў прысвечаны нашым славутым землякам. Раскажыце падрабязней пра гэты бок літаратурнага жыцця.**

Сапраўды, на Гомельшчыне па ініцыятыве старшыні Гомельскага аддзялення СПБ Уладзіміра Гаўрыловіча праводзяцца "Літаратурныя дажынкі", дзе мы падводзім вынікі саёй літаратурнай дзейнасці. Але не толькі дажынкі наша візітная картачка, але і Грачанікаўскія чытанні, і

конкурс імя Кірылы Тураўскага, стаць лаурэратамі якога пашчасціла і нам з табой. А сёлета распачалі бібліятэчку “Літаратурная Гомельшчына”. Трымаем таксама творчыя сувязі з літаратурным Бранскам і Курскам (Расія), Чарнігавам і Глухавым (Украіна). Напрыклад, мы з паэтэсай Аленай Матвіенка пераклалі на беларускую мову паэму М. Мельнікава “Рускі крыж”, якая выйшла ў серыі “Літаратурная Гомельшчына” асобнікам. Прыемна, што нашу працу заўважылі і адзначылі расійскай прэміяй імя Мікалая Мельнікава. Цікавыя літаратурныя чытанні праводзіць Саюз беларускіх пісьменнікаў на радзіме паэта Анатоля Сыса ў вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна. Важна, каб кожны рабіў сваю справу, а рухаемся мы ў адным накірунку – да яе вялікасці Літаратуры.

**Як Вы лічыце, што трэба зрабіць, каб вярнуць грамадству цікавасць да сур'ёзнага чытання, у першую чаргу, да чытання класікі, каб адрадзіць мастацкі густ у нашых чытачоў?**

Самім сур’ёзна адносіцца да творчасці. Спадзявацца, што маладое пакаленне разумнейшае за нас, што ў іх узнікне патрэба разабрацца ў жыцці, а без паглыбленага роздуму, без каласальнага вопыту класікі здзейсніць задуманае будзе нялёгка. Зараз назіраецца тэндэнцыя да пераходу ад любоўнай літаратуры да гістарычнай, дакументальнай. Людзі прагнуць не толькі эмоцый, але і адказаў на пытанні.

**Агульнавядома, што любоў да роднага слова закладваецца ў дзяцінстве. І тут велізарную ролю можа адыграць школа. Што, на Ваш погляд, неабходна зрабіць для таго, каб змяніць катастрафічную сітуацыю, якая склалася з выкладаннем літаратуры ў школах? З дапамогай якіх метадаў можна прыцягнуць увагу дзяцей і падлеткаў да айчыннай класікі, да творчасці тых нашых**

**сучаснікаў, якія з'яўляюцца годнымі прадаўжальнікамі справы беларускіх класікаў?**

Многае залежыць ад асобы выкладчыка. Ён павінен добра ведаць псіхалогію вучняў пэўнага узросту. Трэба размаўляць з вучнямі як з роўнымі сабе, выклікаць давер. Тады, дзеці пацягнуцца, яны адчуюць патрэбу пагаварыць, паслухаць, узбагаціцца духоўна. Але і асоба аўтара ў гэтай справе адыгрывае далёка не апошнюю ролю: калі пульс паміж чытачом і творцам намацаны, атрымліваецца дыялог. Але літаратура не павінна быць адарванай ад рэальнага жыцця, тады і вучням, і чытачам увогуле будзе цікава да яе звяртацца. Літаратура павінна дапамагаць жыць чалавеку, напаўняць яго духоўны свет новымі ўражаннямі, эмоцыямі, думкамі. Так, дарэчы, мы пазнаём саміх сябе.

**Дзякуем, паважаная Ніна Нічыпараўна, за шчырую размову. Творчага плёну.**

# СЛОЎНІК

***(З моўнай скрыні Н. Шкляравай)***

## Руска-беларускі

### А

Абажур – засыня
Автобиография – самарыс
Адамово яблоко – коўцік
Акацыя – гарошнік
Аккорд – сугук
Активный – дзейны
Акцент – пагалосак
Алмаз – дыямант
Альманах – штогоднік
Анекдот – показка
Антипатия – не́хаць
Антонов огонь – вогнік
Апельсин – аранжык
Арка – выгба

### Б

Базар – торжышча
Балаган – лубнянка
Баня – мыйня, лазня
Безбородый – галамузды
Безвкусие – несмач
Бессилие – нязмога, знямога
Берлога – бярлог, лагво́
Беседка – летамка
Благо – балазе
Благовонность – вохнасць
Благодетель – дабрачынца
Благотворительница – дабрадзейка
Близорукий – паніклівы

Бледноголубой – блакіцісты
Богослужение – набажэнства
Богохульник – блюзнёр
Божество – Божышча
Боровик, белый гриб – дабрак
Бороться – доляцца
Бороться – барукацца
Брезжить – сутунець, залчэць
Бритва – галяк
Брошка – сушпілка
Бульон – навар, юшнік
Баловень – цацунок

В

Варенье – сочыва
Вволю – удосыць
Вездесущий – усюдыісты
Вереница – плойма
Ветхий – друзлы
Ветошка – лахмак
Ветошь – друхло
Вентилятор – душнік
Взашей – узакаршэль
Влага – мокрадзь
Влечение-туснасць(нетусны-непривлекательный)
Вместилище – стоўпішча
Внутренности – бэбахі (2. тряпье – бэбахі)
Военный – ваярскі
Вопль – ёкат
Врозь – уроскідзь
Вспышка – пошуг
Веер – вахлік, вахлец
Выйти боком – вомегам

## Г

Галопом – навыскач, наўскокі
Галюцинация – амарока
Гардероб – апратня
Гербарий – зельнік, траўнік
Гибкий – гнуткі, хібкі
Глиняный кувшин, горлач – гарлач
1. Голое пространство (2. шар) – га́ла
Гололедица – abліваха
Голыми руками – галаруч
Гонорар – дзякло
Гончая сабака – ганчак
Гордый – ганорны (ганарлівы)
Горшок с узким горлышком – гляк
Гравий – жвір
Грецкий орех – Валоскі арэх

## Д

Делишки-справункі
Десерт – заедак
Деталь – драбніца
Дилетант – верхахват
Диспут – пяроспар
Диадема – авянечнік
Добровольно – самахоць
Долговязый – даўгалыгі
Досаждать – дапінаць
Дотла – наспрах
Дошлый – дападкі́
Дрожь – дрыжыкі, трасавіца

## Е

Ералаш – бязладзіца
Ершистый – важаваты, натапыраны

## Ж

Жабры – зябры
Жало – джагло
Жалование – дажа
Жалюзи – рашатні, акянніцы
Жар – спёка, пал
Жаровня – жарніца
Жать – гнясці, муліць
Желе – дрыжэль
Жеребёнок – жарабок, жарабя, жаробка, кусулька
Жернов – жарнак
Жест – кіў, спокіў
Жетон – пазнамак
Жидкость – цякоміна
Жребий – кон

## З

Забеременеть – зацяжарыць, зачэрыць
Заболонь – з*а*балань, мязг*а* (мякаць дрэва)
Забота (печаль, горе, досада) – дакука
Завещание – запавечнік
Завод, сахарный – цукроўня, пивоваренный-бровар
Задвижка – засаўка
Завяушы – зажохлы
Заем – пазычка
Зазеваться – заслупеніцца
Закаменелый – закамелы
Закат – сутон, суклон
Закваска – закісь
Залог – заклад, зарука
Заноза – скабка, застрамка
Занос – задзьма, шарпак
Зарево – полынь, паланіца
Затруднение – мітрэнга, цягоба
Затворник – пустэльнік

Заусеница – валаснік
Зга – яска (ни зги – ані ясачкі)
Звоночек – шумелка
Злокачественный – злаякі
Злорадный – злоцешны
Захиреть – захізнуць
Зоб – валлё
Зыбь – калыба

**И**

Иго – ярмо
Избоина – макуха (рэшткі выжымак ад насення лёну)
Извилистый – звілкі, извилины - звівы
Известие – ведамка, вестка
Извлекать – вытусать
Издавна – сыздаўна
Изжога – пякотка
Излишек – лішніца
Излучина – выгіб, развіліна
Изморозь – шаць, шэрань
Изнанка – выварат, зніцоўка
Изредка – спораззь
Илистый, вязкий – глісты
Иссякать – ушчукаць (умолкать)
Изумруд – шмарагд
Изюм – разынкі
Индюк – калакут, кульбаба
Инжир – фігі
Индульгенция – прошча
Инстинкт – пабудка
Инфузорыя – жывулька
Искра – яска
Искушение – блазь, спокус
Искоса – касавура
Испуг – ляк, спалох

**К**

Каблук – запятак, абцас
Кавардак – гармідар
Кадык – коўцік
Кадык – гарляк
Квартал – агранец
Квартира – гаспода
Компот из яблок – узвар
Конёк на крыше – вільчак
Конкурс – спабор
Конспект – цэдлік
Канун – конадзень, канон
Клюв у птицы – глюга
Клюка – кавенька
1. Комолое животное (корова) 2. плюгавый – галамоўза
Коптилка, керосинка – газніца
Корреспонденция – ліставанне
Котловина – водміна
Кошелек – гаманец, гамалейка
Кран подъемный, колодезны журавль – асвер, вінда
Крапивник – валавока
Крещение – Вадохрышча
Кречет – крагуль
1. Крыночка (2. водяная лилия) – гарлачык
Крышка – века, вечка
Крючок (в одежде) – гаплік
Кудесить – пракудзіць
Кудесник – вядзьмак
Кусок дерева – дзеравяка

**Л**

Летаргия – апомерць
Лазутчик – асочнік
Ливень – дажджыска
Лихорадка – трасавіца

Логово – гайнó
Лозунг – покліч
Ломовой извозчик – балагол
Лохань – балея
Любострастие – юрнасць, юр

## М

Мак-самосейка – відук
Манишка – шмізэтка
Матрац – пехцяр,сяннік
Махровый – бахматы
Маяк – мігак
Мгла – хомар
Медленно – баўна
Месяц в последней четверти – Вéтах
Метис – мяшанец
Молва – памоўка, слынь, пагудка
Морошка – камяніца
Мятеж – мутар

## Н

Навес над колодцем – дáшак
Наждак – шмагель
Найденыш – знайда, найда
Надбавка – дадатак
Насенне – жамяра
Накануне – наконадні
Наконечник – аканечнік, пупыр, камёлка
Наличные (чистоган) – гатоўка
Наощупь – вобмацкам
Наперегонки – навыперадкі
Недопеченный – ацесліві
Нелюдимый – адлюдак
Неподстать – неўдалад
Неподходящий – непасоўны

Неряха – нехлюз
Неустройство – безлад
Нетопырь – лятучая мыш, кажан
Неурядица – няўладзіца

## О

Оболтус – боўдзіла
Овраг – яр, растока
Огонь – агмень, вогнік, вогнішча
Огорчение – згрызота
Однако – аднача
Одуванчик – багатка, кульба, кульб*а*ба, дзьмухавец
Огурец – хрустак
Одеяло, ватное – ватола
Однородный – аднаякі, аднастайны
Озимь – рунь, азіміна
Околесица – акалозіца
Околоток, округ – кругаселіца
Окончание прядения – дапрадкі
Оптом – агулам
Остатки, последки – дабіркі
Охапка – бярэмя

## П

Пахотливый - юрны, юр
Пень – водруб
Перспектива – празор
Печень – ятро
Печь, из камней – крушніца
Пилюля – пігулка
Платформа – пласа
Плут – пройда
Погремушка – балаболка
Пододеяльник – апокрыўка
Повестка – позва

Подойник – дайніца
Покрывало – капа
Полночь – кураклік
Полусвет – суцьмень
Пометка – пазначка
Попущение – пакволя
Порознь – парозна, уроскідзь
Пособие – спамога
Предплечье – поквіца
Портмане – гамэтка
Предание – пагудка
Преисподняя – апраметная, тхлань
Прелестный – спанадны
Притон – з*а*цемак
Притча – прыпавесць
Прогорклый – ёлкі
Пруд – ставок, сажалка
Пурга – шугавей, шугавея
Пыж – пакулля, клак
Пяльцы – н*а*пінкі

**Р**

Радикальный – крэўкі
Развалины – крушня, руіны
Разведение (животных) – гадоўля
Раздор – раздзір, разлад, нязгода
Разиня – салупяка
Разрешетить – пасіткаваць
Рассол – лёк
Ранец – клунак, хатыль
Рапс – сурэпіца
Растравлять (душу) – ятрыць, вярэдзіць
Рдеть – жаўрэць
Ревность – рупат*а*
Ревнивец – дроснік, рупатлівец
Ресница – вейка

Ризница – шатніца
Рынок – торжышча
Рябь – таласа

## С

Сажа – сопат
Сарай – пуня
Свая – паля
Свинец – волава
Свиток – сувой
Свирель – жалейка, свірэц
Светильник – каганец
Свыкнуться – агойтацца
Селёдка – селядзец
Сквозняк – пройма, скразняк
Скотник – гавяднік
Скупец – скупянда
Скусок – кусанік
Следить – віжаваць
Слепéнь – гіз
Смотритель – дазорац
Смутьянка – баламутка
С норовом – бзікаваты
Сорванец – вісус
Соринка – трусачка
Софа – услон
Спектакль – відовішча
Спички – сернічкі, сернік
Ствол – галамень, галомісты (голае месца без голля, пень)
Стебли – бадылле
Страда – пільніца
Страсть – жарсць
Стрекоза – стрыбаўка
Стремглав – кулём, спотырч
Струя – бруя, струга

Стужа – золь
Стружка – габлюшка
Сурок – байбак
Сущий – існы, істотны
Сеновал – вышкі, пуня

**Т**

Тальник – вербалоз
Тать – злодзей
Тенета – цянёты
Течь – точыва, цеча
Трибуна – моўніца

**У**

Увы – авохці
Удушье – затха
Улитка – смоўж
Уподобится – сутокміцца
Усадьба – сяліба
Усилие – высілак
Устрицы – чарупаўкі, слізень
Устье – сутока
Уханье – вохнасць
Ухват – вілачнік
Ухват для сковороды – ёмка
Ушиб – садно
Учет, зачет – залічка
У черта на куличках – у віру на калу

**Ф**

Фанаберия – пыха
Фанатизм – сызвер
Фартук – поняўка
Фатализм – кон, доля
Фейерверк – агнялёт

Фикция – марока
Филин – пугач
Фитиль – кнот
Флюгер – ветраўнік

**Х**

Хaралужный – сталёвы
Хворост – хмыз
Хлам – хлуд
Хлябь – плюха
Ходули – кавёлы, дыблі
Холм – пагорак, калога
Хряк – кнур
Хрящ – храстка
Хула – ганенне

**Ц**

Царапина – дзёрска
Целитель – гойнік, гойбіт

**Ч**

Чадо – дзіцёнак
Чаща – чашчоба, гушчар
Человек с редкими волосами или проплешинами – галамшывы
Челюсть – жухва, шчэлепы, сківіца
Чемодан – валіза
Чепуха – чаўпня
Чердак – застрэшша
Череда – ваўчкі
Черёмуха – какалуша
Черепица – кахля
Черта – крэса

**Ш**

Шалопай – целяпень
Шарлатан – хлус
Шашни – пошапкі
Шелуха – лушпінне
Шеромыга – гальцяй
Шлак – жуглі
Шлепок – пляскач
Шоссе – гасцінец
Штопор – шніпар
Шушуканье – шапятункі

**Щ**

Щеколда – клямка
Щелчок – пстрычка
Щелок – жлукта, луг
Щиколотка – глізн*а*

**Э**

Эпидемия – пошасць

**Ю**

Юноша – маладзён
Юнец – дзяцюк
Юрко – вёртка
Юродивый – бажавольны

**Я**

Ябеда – кавярз*а*
Ячмень – ячмень, ячны, ячнішча, ячнік
Яшма – яспіс
Ящик – скрыня

## ЗМЕСТ

Навуковае выданне

**БАРАНОЎСКІ**
**Алесь Аляксандравіч**

**"ЗА ПРАМЕНЬ СХАПЛЮСЯ – І ЖЫВУ!"**
**Творчая самабытнасць Ніны Шкляравай**

Адказны за выпуск *У. П. Кузьмін*
Рэдактар *Л. М. Мінакова*
Камп'ютэрны набор *А. Бараноўскага*
Вёрстка *В. У. Аскерка*

